PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 50 (2118) Год XLI Беласток 15 снежня 1996 г. Цана 70 гр. (7 000 ст. зл.)

Ганна Кандрацюк

## Зарасце зноў нас пушча

**— А ў нас сорак *бараноў* будзе, — гаворыць дзядзька з Палічнай. У аднае бабы то аж чатыры ў хаце сядзіць. Як заколюць парсюка, то за два дні яго ўплятуць. Бо прыйдуць калегі і дапамогуць...**

**У Палічнай *баранамі* абзываюць старых кавалераў. А найбольш папулярныя прозвішчы — Баран і Стэпанюк. Наш субяседнік — чалавек сямейны. Зразу ж здагадаецца кожны, што прозвішча ягонае Стэпанюк.**

Канец лістапада. Дзень сухі і здаровы, быццам на заказ. Восеньскае сонца залівае залатой пазалотай пушчанскія палеткі. Бясконца цягнуцца парыжэлыя аблогі, землі пакінутыя жукаўскім калгасам. У Палічнай даўно ўпала калектыўная мадэль гаспадаркі. У мінулым годзе закрылі тут таксама пачатковую школу. Пра мінуўшчыну вёскі напамінае даўжэзная, да двух кіламетраў вуліца.

— Цяпер кожная трэцяя хата ўжо пустая, — гаворыць Вольга Саевіч.

Бабуля выйшла са сваёй хаткі прыглянуцца нетыповым наведвальнікам. Разам са мной малодшыя сяброўкі „Зоркі". Перад хвілінай мы агледзалі апусцелы панадворак, жылы запаведнік. Будынкі пакрыты саламянымі стрэхамі, калодзеж з жоравам, упрыгожаны арнаментам ганачак. Сфатаграфавалі таксама старую клуню, абложаную кастрагамі паколатага дрэва, з падвойным буслінным гняздом на страсе.

— Што ўсё такое старое, саламянае аглядаеце? Хто не прыедзе, гэтую клуню фатаграфуе, — дзівуецца бабуля.

Пра вёску яна расказаць не ўмее.

— Я нідзе не хаджу, нічога не ведаю, — чуем тыповы жаночы адказ.

Бабуля запрашае нас у хату. У чыстай кухні пахне хлебам і вясковым жыццём. У нашай субяседніцы два кавалеры.



*Вольга Саевіч разам з сяброўкамі „Зоркі".*

— Колькі за хлеб возьмеце? — таргуем бохан свойскага хлеба.

— Можа не трэба грошай, — кажа няўпэўнена бабуля. Пазней прапануе палічыць „як у *склепе*". — Там па восем тысяч, — кажа яна. — А гэтая булка з тры кілаграмы будзе.

Даем бабулі дваццаць пяць тысяч старых злотых.

— Замала, — пратэстуе яна. — У склепе за шэсцьдзесят дэкаграмаў — восем тысяч злотых!

Наш торг падабаецца дзяўчаткам. Такі кароценькі ўрок народнай эканоміі.

З бабкай і яе духмяным хлебам робім супольны здымак. Як „тыя", што ўсё фатаграфуюць! На развітанне бабуля хвалюецца.

*— А я думала, што зноў іеговы прыйшлі до вёскі.* А то нашы, — не скрывае радасці ад сустрэчы „са сваімі" наша субяседніца.

На вуліцы затрымоўваем дзядзьку на роварах.

— Назва Палічна ад паляны, — пасняе нам. — Калісь, даўно-даўно, людзі з пушчай змагаліся...

Наш субяседнік, быццам нейкую казку, доўга і каларытна, ды кантралюючы, ці разумеюць яго дзяўчаткі, бае легенду пра Палічну.

Непадалёк вёскі, дзе крыжуецца дарога ў Войнаўку, знаходзіцца страшнае месца. Там многія чулі, як дзіцяня нейкае плача. Мусіць закапала там немаўля нейкая дзеўка, — расказвае дзядзька. — Іншыя зноў прывіды ў тым месцы бачылі, галасы страшныя чулі. Дзядзька гаворыць, а мне ўспамінаюцца такія ж аповеды майго дзеда з нашага лесу. Прыемна паслухаць сівыя легенды родам з язычаскай міфалогіі. Дарэчы, у „страшным" месцы стаяць крыж і дуб. Двухвер'е ў прыпушчанскіх вёсках як нідзе яшчэ жывое. Ды і праваслаўны прыход у аддаленым на чатыры вярсты Вэрстоку. І да таго там г.зв. „карная парафія".

У Палічнай многія баяцца чараў. Яшчэ да нядаўна жылі-былі тут дзве чараўніцы. — Цяпер хіба няма, — няўпэўнена гаворыць наш субяседнік. Нашы размовы час ад часу перабівае скрыгат пілаванага дрэва. На панадворках, ля *крайззг*, круцяцца мужчыны.

— Вы пра нас кепска не думайце, — кажа наш субяседнік. — Цяпер жыццё тут цяжкое. Хлопцы адно пад магазінам сядзяць.

Дзядзька знаёміць нас са школьнікам, бамбізаватым хлапчуком. Хлапец толькі што рэзаў з бацькам здабытыя ноччу дровы.

— Цяпер возяць нас у Кляшчэлі, — гаворыць без энтузіязму пра школу. — Добра там, весела, многа дзяцей усякіх.

Хлапчук не любіць свае вёскі.

— Няма тут ніякай *разрыўкі*, — наракае няўмела. — Адно памагай ды памагай у гаспадарцы.

**(працяг на стар. 10)**



*Чысты запаведнік.*

Алег Латышонак

## Людзі на балоце

Так склалася, што ў Беларусі не быў я ажно два гады. Таму з вялікай цікаўнасцю чакаў сустрэчы з беларускай сталіцай.

Першае ўражанне такое, што чуткі аб смерці беларускай гаспадаркі аказаліся заўчаснымі. Сям-там нешта будуецца. У цэнтры ўзніклі шыкарныя крамы самых разнастайных заходніх фірмаў. У кватэрах цёпла, а з кранаў цячэ гарачая вада. Калі выпаў першы снег, зараз жа сталі яго прыбіраць. Заводы працуюць нерэгулярна, але работнікі атрымоўваюць зарплату, як за нармальную працу. У тым часе можна абрабляць свой участак зямлі, або заняцца нейкай іншай карыснай справай. Былі павышаны пенсіі і нават рэвалярызаваны ашчадныя ўкладанні. Хлеб танны, гарэлка амаль дармовая. Усё іншае страшэнна дарагое, але ні голаду, ні холаду ў Беларусі няма.

Апазіцыйна настроеныя сябры і знаёмыя зараз жа пачынаюць тлумачыць, што гэта ўсё пакзухa. Малака не дастаць, пліткі на тратуары кладуць толькі таму, каб паказаць, што ў горадзе і краіне ёсць гаспадар. Сябры і знаёмыя з-па-за Мінска расказваюць, што ў іншых гарадах транспарт ходзіць намнога горш, а вуліцы не асвятляюцца дастаткова. Бізнесмены наракаюць, што сталі іх душыць. Лідэры апазіцыі заяўляюць, што ў дзяржаўным банку няма грошай і неўзабаве трэба будзе друкаваць пустыя паперкі, пачнецца інфляцыя і агульны эканамічны крах.

Пэўне ж так і будзе, але скуль тое ведаць звычайнаму чалавеку? Як ні глядзі, прэзідэнт Лукашэнка ў часе рэферэндуму здолеў стварыць уражанне, што ў краіне можна жыць. У параўнанні з Украінай, дзе я бачыў сапраўдную нэндзу, нават не так і кепска. І для ўсіх ясна, што гэтае „не так і кепска" магчымае дзякуючы добрым адносінам з Расіяй.

Выглядала, што прэзідэнт Лукашэнка павінен быў выйграць канстытуцыйны рэферэндум без надзвычайных намаганняў. Дык дзеля чаго спатрэбілася яму вайна з Вярхоўным Саветам за спосаб правядзення таго ж рэферэндуму? Чаму прэзідэнт, расцягваючы рэферэндум на два тыдні, звальняючы старшыню Цэнтральнай выбарчай камісіі і праводзячы галасаванне „грамадскім" чынам прымусіў кожнага аб'ектыўнага наглядальніка сумнявацца ў выніках рэферэндуму?

На мой погляд, прычыны могуць быць тры. Вось яны, пачынаючы з найменш важнай.

Правядзенне рэферэндуму адначасова з давыбарамі ў Вярхоўны Савет зра-

**(працяг на стар. 4)**

# Мы прачыталі

*Zachód nie uznaje Białorusi za obszar wart specjalnego zainteresowania. Nie angażują się politycy, których głos mógłby zostać usłyszany, a pobicie kilkunastu demonstrantów nie jest tematem wystarczająco atrakcyjnym dla opiniotwórczej prasy. Okazuje się, że wbrew geograficznej oczywistości Mińsk leży znacznie dalej od Paryża, Londynu czy Bonn niż Moskwa.*

*Wprost, nr 47*

* * *

*Oficjalne wyniki referendum na Białorusi podano 13 godzin po zamknięciu lokali wyborczych. To absolutny rekord świata. Łukaszenka powinien dostać Nobla z matematyki.*

*Gazeta Wyborcza, nr 275*

* * *

*Апошнім часам слова „рэферэндум" — адно з найбольш ужывальных на Беларусі. На кожным кроку сустракаюцца яшчэ плакаты кшталту „Нам нужен референдум". У выніку такога масавага замбіравання ў простага чалавека ствараецца ўражанне, што пасля рэферэндуму ўсе стануць жыць шчасліва. Разумнаму чалавеку відавочна, што сёлетняя кампанія прывядзе да трагічных наступстваў, якія цяжка ці нават немагчыма выправіць.*

*Наша слова, н-р 46*

* * *

*Prezydent Kwaśniewski, w przeciwieństwie do Wałęsy chce się wszystkim podobać. Jeśli Wałęsa czuł się powołany do roli przywódcy, podejmującego trudne wyzwania, to Kwaśniewski chce być kompanem, umilającym nam wycieczkę w przyszłość. Podoba się to za granicą, zwłaszcza na Zachodzie, który przede wszystkim nie lubi cudzych problemów. Skoro prezydent jest gładki, to i kraj nie musi być zbyt kłopotliwy. Nie słychać, aby prezydent kwapił się do podejmowania trudnych decyzji, unika nawet drobnych przykrości. Za to chętnie bywa tam, gdzie wszystko i bez jego udziału przebiega pomyślnie. Wydaje się być idealnym szefem państwa, w którym dzieje się dobrze i które z powodzeniem mogłoby się bez niego obyć. To naprawdę sympatyczny przewodnik naszej wycieczki. I w gruncie rzeczy dość przyjemnie upływa z nim czas. Gorzej kiedy coś pęknie w naszym autokarze. Wtedy nie wiadomo czy będzie można na niego liczyć.*

*Kurier Poranny, nr 271*

* * *

*Chłopi z Dolnego Śląska, zrzeszeni w Solidarności Rolników Indywidualnych, wybrali się na wycieczkę do stolicy, by porozmawiać w Ministerstwie Rolnictwa o przesunięciu terminu spłaty kredytów i dopłatach do paliwa. Przyjął ich sympatycznie wiceminister Jacek Soska z PSL, zapewniając, że przedłużenie spłaty ich długów jest już załatwione. Nie w pełni usatysfakcjonowani delegaci wylali na schody ministerstwa śmierdzącą gnojówkę. „To taka wiejska perfuma" — żartowali kończąc gościnne występy.*

*Polityka, nr 46*

* * *

*Jeśli nic się nie zmieni w najbliższym czasie, w następnych wyborach przyjdzie wielu Polakom dryfować między uczuciem obrzydzenia a lękiem przed nieobliczalnym szaleństwem. Z jednej strony — sprzedajne, chamskie, chytreńkie, dwulicowe i cwane gęby rzekomej postkomuny i rzekomych przedstawicieli naszego włościaństwa, z drugiej — facjaty rzekomej prawicy, napiętnowane obłudą, pyszałkowatą głupotą, fanatyzmem i żądzą władzy. A w centrum, więc tam, gdzie człowiek szuka rozsądku i umiaru, rozpościera się hamletyczna niemoc Unii Wolności.*

*Wprost, nr 46*

* * *

*Nałogowe oglądanie telewizji powoduje uzależnienie i nieodwracalne zmiany w mózgu.*

*Kurier Poranny, nr 272*

Тэленаркотык?!

* * *

*Nieobliczalność Łukaszenki jest tym groźniejsza, że Białoruś nie posiada żadnych efektywnych związków z Zachodem, a tym samym jest głucha na naciski zachodniej opinii publicznej. Pełne uzależnienie od Rosji powoduje, że Mińska nie stać na reorientację swej polityki — niezależnie od tego, czy Łukaszenko utrzyma się przy władzy czy nie. Równocześnie Moskwa traktuje ten kraj jako korytarz transportowy i operacyjne przedpole wojsk rosyjskich. Wykorzystuje Białoruś do swej gry nie przejmując się zanadto stanem gospodarki, ani przestrzeganiem praw człowieka w tym kraju.*

*Gazeta Wyborcza, nr 274*

* * *

*Kołchoźnicy i sowchoźnicy to najwierniejszy elektorat Łukaszenki. W sowchozie pod Mohylewem prezydent czuje się jak w domu. Sowchoz wyniósł go do parlamentu, a potem do najwyższej godności w państwie. A cóż to takiego państwo? Sowchoz, tylko dużo większy. Przyjeżdża tu teraz jako prezydent Białorusi i na miejscu pokazuje jak należy dbać o ludzi. — Dlaczego zarobki są takie niskie? — pyta groźnie. — Widzicie, panie prezydencie — przewodniczący wije się z poczucia małości. — Sowchoz żyje z produkcji jaj, a kury źle się niosą. Tym razem prezydent da z państwowej kasy. Każe podnieść ludziom płace. Będzie lepiej. Dzięki niemu. Czy opozycja wpadłaby na takie rozwiązanie?.. Nie, bo opozycja jest antyprezydencka, antybiałoruska, inspirowana z zewnątrz.*

*Życie, nr 48*

# З мінулага тыдня

**Прадстаўнікі Савета Еўропы**, пакідаючы 27 лістапада Беларусь, прызвалі прэзідэнта **Аляксандра Лукашэнку** да пашаны прынцыпаў дэмакратыі і прызнання прыярытэту права. Дэлегацыя з васьмі палітыкаў, якую ўзначальваў **Тадэуш Івінскі** — насмеснік старшыні Парламенцкай Асамблеі Савета Еўропы, пабывала ў Беларусі амаль тыдзень па запрашэнні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Наглядала яна, між іншым, за ходам канстытуцыйнага рэферэндуму, хаця не прыняла на сябе ролі фармальнага наглядальніка, каб не даваць падстаў для меркаванняў, што прысутнасць яна законнасць гэтага мерапрыемства.

**Прэзідэнт Партугаліі Жоржы Сампайу** адказаўся прыняць прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнку пры нагодзе саміту Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе, які праходзіў у Лісабоне. Як прычыну адмовы пададзена „брак часу" ў праграме заняткаў прэзідэнта Сампайу. Аднак назіральнікі падкрэсліваюць, што стаўленне кіраўніка партугальскай дзяржавы супадае з пазіцыяй Еўрапейскага Саюза і большасці заходніх дзяржаў, якія асудзілі як канстытуцыйны рэферэндум ад 24 лістапада, так і рашэнне Лукашэнкі замяніць выбраны народам парламент Народным Сходам, які складаюць выключна верныя яму людзі.

**Урад Нямеччыны** прызваў прэзідэнта Беларусі да кампраміснага вырашэння канфлікту з апазіцыяй. Прэс-сакратар урада **Пэтэр Гаўсман** заявіў, што ФРГ праяўляе занепакоенасць палітычнай сітуацыяй у Менску. Паводле нямецкага ўрада, як прынясццё канстытуцыі, якая пашырае паўнамоцтвы прэзідэнта, так і роспуск парламента з'яўляюцца парушэннем прынцыпаў дэмакратыі. Бонскі ўрад хоча падтрымоўваць адносіны з дэмакратычнай Беларуссю.

**Прэзідэнт РП Аляксандр Квасьнеўскі** лічыць, што міжнародная думка, АБСЕ і Савет Еўропы павінны ацаніць падзеі ў Беларусі. „Гэтая краіна мусіць прытрымоўвацца правоў чалавека і дэмакратычных прынцыпаў", — сказаў ён.

**Польшча** мае важныя інтарэсы ў Беларусі і будзе падтрымоўваць кантакты з гэтай краінай, хаця не будуць гэта кантакты на прэзідэнцкім ці парламенцкім узроўнях, — сказаў міністр замежных спраў **Дар'юш Расаці**. — Мы не зможам адыгрываць у Беларусі рашаючую ці перапомную ролю — такую ролю выконвае Расея, але дыпламатычнымі каналамі будзем рабіць націск, каб паводзіны ўлад у Беларусі былі згодныя з прынцыпамі, якіх прытрымоўваемся мы і ўсе іншыя краіны ў Еўропе. Гэты парламент (падпарадкаваны Лукашэнку) не мае мандата легальнасці і з'яўляецца неканстытуцыйным. Мы лічым, што ў такой юрыдычнай сітуацыі дзяржаўныя ўстановы Беларусі не маюць легальнага мандата для функцыянавання, — заявіў міністр.

**Былыя дзеячы антыкамуністычнай апазіцыі** з 14 краін Сярэднеўсходняй Еўропы, якія прымалі ўдзел у канферэнцыі „Час дысідэнтаў" у Падкове-Лесьнай каля Варшавы, выдалі адозву-пратэст супраць парушэння прынцыпаў дэмакратыі і правоў чалавека ў Беларусі. Адзін з удзельнікаў сустрэчы, адказны сакратар „Нашай нівы" **Алег Дзярновіч** сказаў, што для ягонай краіны час дысідэнтаў яшчэ не скончыўся: „Сённяшняя сітуацыя ў Беларусі такая, што актуальнымі становяцца прынцыпы дзейнасці апазіцыі — тое, што ў Маскве называецца дысідэнцтвам. Іх выкарыстанне з'яўляецца неабходным і мы мусім здабываць веды ў гэтай галіне, таму што не ведаем як доўга такая дзейнасць цяперашняй Беларусі спатрэбіцца".



# Весткі з Беларусі

**Кішэнны парламент**

Пасля рэферэндуму з агульнага ліку 199 дэпутатаў Вярхоўнага Савета ў Авальнай зале засталося менш за 60 парламентарыяў, якія апынуліся ў апазіцыі да лукашэнкаўскага рэжыму. Затое на дэпутацкі сход у будынак па вуліцы Маркса перайшлі 122 нардэпы, якія прызналі вынікі рэферэндуму і ва ўзнагароду былі занесены ў спіс кандыдатаў у склад Палаты Прадстаўнікоў — ніжэйшай палаты фарміраванага прэзідэнтам новага парламента. Новая канстытуцыя прадугледжвае, што Палату Прадстаўнікоў састаўляюць 110 дэпутатаў. У сувязі з гэтым прэзідэнт падпісаў указ, якім пазбавіў мандатаў 12 „непатрэбных" дэпутатаў, але паабяцаў ім забяспечыць адпаведны статус і даходы. Старшынёю Палаты Прадстаўнікоў стаў Анатоль Малафееў — апошні І сакратар ЦК КПБ.

**Апазіцыйны камітэт**

У Менску заснаваўся Рэспубліканскі камітэт абароны канстытуцыі, які мае прыняць на сябе ролю нефармальнага парламента, альтэрнатыўнага да таго, які фарміруецца пры дапамозе верная прэзідэнту Лукашэнку групе дэпутатаў. Лідэрам камітэта стаў старшыня Вярхоўнага Савета Сямён Шарэцкі. Галоўная мэта камітэта — вярнуць канстытуцыю 1994 года, якая абавязвала да прэзідэнцкага рэферэндуму.

**Расейскія віншаванні**

На адрас прэзідэнта Рэспублікі Беларусь паступіла тэлеграма ад прэм'ер-міністра Расейскай Федэрацыі Віктара Чарнамырдзіна, у якой павіншаваў ён Аляксандра Лукашэнку з перамогай на рэферэндуме. У тэлеграме адзначаецца, што „народ Беларусі свой выбар зрабіў; вынікі рэферэндуму пераканаўчыя, а галасаванне падвяло рысу пад спрэчкамі". Чарнамырдзін расцэньвае гэта як вялікі асабісты поспех беларускага прэзідэнта.

**Пазіцыя ЗША**

Злучаныя Штаты захаваюць сваё пасольства ў Менску і зрабілі выбар на карысць прадаўжэння ўзаемадзеяння з урадам Аляксандра Лукашэнкі, — заявіў прадстаўнік Дзяржпартамента ЗША Нікалас Бэрнс. Пасол ЗША ў Менску Кэнэт Ялавіц прадоўжыць сваю работу. Ён будзе сустракацца з Лукашэнкам і іншымі членамі ўрада, а таксама з лідэрамі апазіцыі.

**АБСЕ вывучае сітуацыю**

Міністр замежных спраў Уладзімір Сянько сустрэўся з генеральным сакратаром Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе Джанкарлам Арaгонам, які прыбыў у Менск для вывучэння сітуацыі ў рэспубліцы і падзей пасля рэспубліканскага рэферэндуму. Міністр падрабязна пазнаёміў госця з вынікамі рэферэндуму і ходам канстытуцыйнай рэформы ў рэспубліцы. „Мы па-ранейшаму, — заявіў міністр, — адкрыты для супрацоўніцтва з краінамі Захаду і еўрапейскімі міжнароднымі арганізацыямі, перш за ўсё з Саветам Еўропы і Еўрапейскім Саюзам. Беларусь была і будзе зацікаўлена еўрапейскай інтэграцыяй і прадоўжыць свой рух у адзіны еўрапейскі дом".

**Перападлік насельніцтва**

Паводле даных Міністэрства статыстыкі на 1 верасня г.г. насельніцтва рэспублікі склала 10 292 300 чалавек і скарацілася сёлета за дзевяць месяцаў на 20 тысяч. Спад нараджальнасці назіраецца ў Менскай і Гродзенскай абласцях.

**Каталог прэсы**

У рэспубліцы зарэгістравана звыш сямісот перыядычных выданняў. Больш падрабязна даведацца пра многія з іх дапаможа каталог „Беларуская прэса '96", які мае намер выдаць Дзяржаўны камітэт па друку. Каталог будзе змяшчаць звесткі аб заснавальніках і рэдактарах, асноўнай тэматыцы і накіраванасці часопісаў, перыядычнасці іх выхаду, спосабах распаўсюджвання, а таксама аб кошце рэкламнай плошчы ў гэтых выданнях.

**Першыя аблігацыі**

У Беларусі выпушчаны першыя доўгатэрміновыя дзяржаўныя аблігацыі з тэрмінам абарачэння адзін год. Гэта прынцыпова новая дзяржаўная каштоўная папера. Яна адрозніваецца ад вядомых аблігацый перш за ўсё мэтай выпуску, працягласцю тэрміну абарачэння і спосабам выплаты даходу. Па першым выпуску стаўка даходу ўстаноўлена на 31% гадавых.

# Свята чыгуначніка

23 лістапада г.г. у Гмінным цэнтры культуры ў Чаромсе працаўнікі дзяржаўнай чыгункі адзначалі сваё свята. З гэтай нагоды адбыўся святочны вечар, у якім удзельнічалі прадстаўнікі Цэнтральнай ДОКП з Варшавы і Раённай станцыі з Седльцаў, прадстаўнікі прафсаюзных арганізацый з гэтых жа ўстаноў, кіраўнікі паасобных чыгуначных службаў з Чаромхі і мясцовага самаўрада.

З прывітальным словам выступіў начальнік Прадпрыемства чыгуначнага рухомага саставу Анатоль Аніщук. Пасля даклада начальніка чаромхаўскай станцыі былі ўручаны значкі „Передавы чыгуначнік". Заслужаным у грамадскай рабоце прафсаюзным дзеячам былі ўпершыню ўручаны значкі Federacyjnej Honorowej Odznaki.

У мастацкай частцы выступіў мясцовы духавы аркестр чыгуначнікаў, а таксама кабарэ з Кракава. Пасля пачалася танцавальная вечарына. Маладыя гулялі пад гукі добра вядомага жыхарам Чаромхі вакальна-інструментальнага калектыву „Ада" з Беластока.

Чарамшукі весела і культурна правялі гэты вечар. **(ус)**

# Як прыцягнуць чытача?

Я стараюся прымаць удзел у як найбольшай колькасці конкурсаў. Думаю, што яны прыцягваюць чытачоў.

У гэтым годзе ў „Кур'еры паранным" ад 1 красавіка да 30 верасня паяўляліся штодзень талоны для ацэнкі працы пошты, пісьманосца і працаўніка пошты. Кожны месяц друкаваліся прозвішчы дзесяці найлепшых паштароў, пісьманосцаў, адрасы поштаў, лічыліся балы і былі ўзнагароды для чытачоў, якія прысылалі свае ацэнкі. Конкурс быў арганізаваны для Беластоцкага і Ломжынскага ваяводстваў.

Я не раз думала, што гэта добрая ідэя, але не найлепшая. Добрая, бо можна, высылаючы талон, падзякаваць за працу паштарам. А ненайлепшая таму, што толькі ў адной газеце такія талоны паявіліся. Мне пашанцавала, выйграла экспрэс для заварвання кавы. Адбіраючы сваю ўзнагароду, распытала я ў рэдакцыі „Кур'ера паранняга" пра арганізацыю іх працы з поштай. Аказалася, што толькі яны мелі права арганізаваць такі конкурс, паколькі мелі падпісаны з поштай кантракт. Узнагароды давала рэдакцыя, у конкурсе ўдзельнічала шмат чытачоў (15 тысяч прыслалі сваю ацэнку працы пошты). Дарэчы, згаданая рэдакцыя арганізуе шмат конкурсаў, і хіба гэта прыносіць ёй карысць. Грошы бяруць, пэўна, з рэклам, аб'яў фірмаў і прыватных асоб. А конкурсы вельмі прыцягваюць чытачоў.

На жаль, „Ніва" не мае такіх фінансавых магчымасцей, каб арганізаваць конкурсы, і таму такім спосабам не прыцягне чытача. Чытаюць яе і будуць чытаць толькі верныя чытачы, якія не разлічваюць на вялікія ці меншыя выйгрышы. **Аўрора**

# Ці будзе лепш?

Калі падумаю аб наступаючай зіме, праблемах галалёдзіцы і засыпаных снегам вуліцах, страшна робіцца. Як пражыць гэтыя некалькі месяцаў? Сядзіць чалавек прыкаваны да чатырох сцен сваёй кватэры і выглядае „з мора пагоды". А яна, вядома, як зімою бывае: то снег, то дождж, то зноў галалёдзіца...

Леташняй зімою ў Чаромсе большая частка цэнтральных вуліц і дарог была ачышчана ад снегу і пасыпалася пяском. Не можна, аднак, сказаць, што ўсё было ў належным парадку. Аб дарожных праблемах чыгуначнага пасёлка і навакольных вёсак зімовай парою я пісаў на старонках тыднёвіка. І зараз хачу напомніць, што з пачаткам зімы і першым сяголетнім снегам паявіліся мінулагоднія праблемы. Маю тут перад усім на ўвазе адрэзак дарогі пры вуліцы Длугай, якая вядзе ад цэнтральнага чыгуначнага пераезда ў напрамку станцыі і Прадпрыемства чыгуначнага рухомага саставу.

Гэты адрэзак дарогі так моцна разбіваецца аўтамабілямі, што пехатою цяжка прайсці. Аб веласіпедзе і не гавары. А трэба адзначыць, што гэтым сродкам транспарту і зімою карыстаюцца многія жыхары Чаромхаўскай гміны.

Калі вуліца пакрываецца белым пухам, не так страшны калдобіны, як галалёдзіца. Тут можна шыю скруціць.

Еду я, напрыклад, 28 лістапада на рынчак у Чаромху. Ужо з „вузкакалейкі" бачу „шкляную" паверхню вуліцы. Ледзь праехаў да пераезда. Тут ужо відаць вынік працы дарожнай службы — дарога акуратна пасыпана пяском.

Не разумею, чаму мясцовы самаўрад пакідае без нагляду так важны ўсім чарамшукам адрэзак дарогі пры вуліцы Длугай. На станцыю вымушаны да цягнікоў ехаць многія людзі. Чаму ж не пасыпаць яго пяском? Ці работнікі затрацяць многа часу, ці пяску не хопіць? А мо гэта нядбайнасць нейкага чыныша? Мы, грамадзяне, плацім фінансавыя налогі дзяржаве. Частка гэтых грошай застаецца ў гміне. Таму, як грамадзянін, хачу яшчэ раз напомніць чаромхаўскаму самаўраду, што дбайнасць пра стан нашых дарог належыць кампетэнцыі войта і падначаленага яму працаўніка дарожнай службы.

Варта аб гэтым памятаць!

**Уладзімір Сідарук**

# Цана легкадумнасці

21 лістапада г.г. ехаў я цягніком у Беласток. На прыпынку ў Падбеллі падсеў да мяне знаёмы Толік Д. з Дубяжына. Прывітаўшыся, пачалі мы гаворку.

— А ты ведаеш, — кажа сябрук, — учарашняй ночы ў Градалях з пашы двое коней укралі. Гаспадары самі вінаваты. Навошта нанач пакідаць жывёлу на пашы... Цяпер шукай ветру ў полі. Паліцыя шукаць не захоча, бо скажа, што гаспадар не забяспечыў маёмасці.

— У нас, па Дубяжыне швэндаліся розныя тыпы, — працягвае сябрук. — Гандлярамі называліся. Адзін такі да мяне зайшоў. Убачыўшы каня на панадворку, пытае, ці я не прадаю яго. А калі я адмовіна адказаў, прышэлец кажа: ладны конік, на якой траве ён пасецца? А я яму і кажу, што на гэтым панадворку, што зараз стаім...

Паглядзеў на мяне „гандляр" з-пад ілба, і пайшоў ні з чым. Зразумеў, што тут яму няма чаго шукаць.

Аб крадзяжах жывёлі з пашы не раз пісалася ў нашым тыднёвіку. Апошні прыклад з Градалёў паказвае, што людзі надалей легкадумна адносяцца да гэтай справы. Таму і плацяць так высокую цану за сваю легкадумнасць. **(ус)**

# Перасцярога перад зняволеннем

У Ольштыне распачаў дзейнасць АрхіДыецэзіяльны цэнтр інфармацыі пра секты і новыя рэлігійныя напрамкі, які мае быць дарадчыкам асобам, якія падвярглся вялікаму ўплыву сект, так на сябе як і на сваіх блізкіх. Цэнтр стварыла група свецкіх выпускнікоў ольштынскай Тэалагічнай калегіі. Будуць яны дзяжурыць у сядзібе згуртавання „Civitas Christiana". Маюць багатую літаратуру пра дзеючыя ў Польшчы секты. Як сказаў ксёндз Ян Рослан, упаўнаважаны вармінскага архібіскупа па справах новых рэлігійных плыняў, цэнтр гэты паўстаў таму, што паднялася актыўнасць сект у Ольштыне. Таму трэба ўсведамляць і інфармаваць пра пагражаючую небяспеку. У Польшчу пераносяцца секты з Захаду, а таксама ўзнікаюць мясцовыя. Асабліва актыўныя яны на г.зв. Вернутых землях, якіх насельніцтва выводзіцца з розных рэлігійных груповак. У Ольштыне, напрыклад, члены секты „Сям'я любві" прабавалі праводзіць даклады ў школах. Асабліва небяспечныя тыя секты, якіх праваднікі выводзяцца з асяроддзя біяэнергатэрапеўтаў і пад шыльдай аздараўлення дзейнічаюць на падсвядомасць прававерная дагэтуль паствы.

**Андрэй Гаўрылюк**

# Воўчая справа

Я з'яўляюся любіцелем жывой прыроды і прыхільнікам захавання кожнага гатунку жывёльнага і расліннага свету. Я таксама за тым, каб і воўк не загінуў і каб не стралялі ў яго. Аднак воўк ваўком і па-воўчаму думае. І з гэтай праблемай селяніну вецер у вочы.

Нядаўна, 7 лістапада г.г. Міхалу Янчуку з вёскі Карыцкі Дубіцкай гміны воўк прычыніў шкоду, загрызшы на пашы ялоўку вагою 350 кілаграмаў. Паляўнічыя спецыялісты без ніякіх сумненняў прызналі, што гэта была воўчая „работа". Не першы гэта выпадак у нашай гміне, што ваўкі загрызлі хатнюю жывёлу, бо навокал нас лясы і хмызнякі. Галоўная бяда заключаецца ў тым, што ПЗУ наадрэз адказваецца выплаціць селяніну кампенсацыю за прычыненую зверам шкоду. Міхал Янчук рэгулярна аплачвае ў ПЗУ страхавыя складчыны, а вось дабіцца кампенсацыі за страты не можа. І дзіва, што ў нашага начальства ёсць параграфы на складчыны, а няма іх на кампенсацыі! У свой час беластоцкі ваявода даў рашучы прыказ, каб ваўка на Беласточчыне не чапаць і не страляць да яго. Відаць, наш ваявода мае спагадлівае сэрца для драпежнікаў; і гэта добра. Але няхай жа ён, ваявода, мае спагаду і добрае сэрца і для селяніна, і хай прычыніцца (а гэта ў яго сілах), каб Міхал Янчук і іншыя сяляне атрымалі аплачаную імі, і таму належную ім, кампенсацыю. **Мікалай Панфілюк**

# Быць на радзіме

Атрымаць прыватызацыйны білет можна было толькі ў месцы пастаяннай прапіскі. Еду ў Бельск беластоцкім цягніком, а побач мяне едуць гродненскія гандляры. Гавораць яны па-расейску; па-беларуску не ўмеюць:

— Мы ў школе не вывучалі беларускай мовы, ды і ўсе ў Беларусі гавораць на расейскай, — так сказалі мне. — Нас мова не цікавіць, мы гандлюем і ездзім у Гданьск, бо там выгадней нам прадаецца, чым у Беластоку або Ольштыне.

У 4 гадзіны раніцы мы ўжо ў Беластоку. Выходжу з поезда і бачу, што царскія муры як стаялі на рамонце, так і стаяць далей; пачакальню адно толькі адрамантавалі, а апошнія дзверы пазабіваны дошкамі.

А шостай еду ў Бельск. Выйшаў з вагона, а ў пачакальні поўна людзей, многа знаёмых: „Здароў, Андрэй!" — вітаюцца са мною. Сядаю ў „тройку" і еду ў Відава. Перад Відавам прыгожа агароджаны магілкі і царкоўка там: купалы сярод рыштаванняў блішчаць — праз лета пабудавалі. Па два мільёны ад сям'і складаліся жыхары Відава, да таго ж многія далажыліся ахвярнай працай. Думаю, што ўжо ў будучым годзе будзе тут адпраўляцца служба на Пятра і Паўла, Прачыстую, а таксама ў Пяценку за душы памерлых.

Вяртаюся ў Бельск, у ПКО. Сустрэў мяне шматгадовы дырэктар Іван Асеннік, хуценька аформіў мне той прыватызацыйны білет. У кабінеце дырэктара ляжала „Ніва"; узрадаваўся я, што дырэктар не выракаецца свайго роднага. Пагаварылі крыху пра нашы беларускія справы.

Выйшаўшы з банка спаткаў Паўла Лемеша, што спявае ў „Васілёчках" і, пагутарыўшы з ім, накіраваўся да інж. Барыслава Рудкоўскага. Нічуць ён не змяніўся за апошнія дзесяць гадоў — бодры ён надалей, не старэе! А гэта таму, што ён натураліст, шануе прыроду. Дома ў яго многа кніжак пра зёлкі, падручнікаў анатоміі, старых медыцынскіх кніжак ды даведнікаў пра антыбіётыкі. Пра апошнія інж. Рудкоўскі гаворыць як пра атруту, а найлепшае лякарства — паводле яго — ў нас саміх. Наша вера ў поспех лячэння з'яўляецца тою незвычайнай сілай, якая пазваляе перамагчы найгоршыя хваробы; ёй трэба толькі дапамагчы лекамі або зёлкамі. Трэба самому пазнаць свой арганізм і ведаць, чаго ён ад нас патрабуе.

Пажадаўшы Барыславу Рудкоўскаму і ягонай жонцы Лідзіі добрага здароўя, развітаўся я з імі і паехаў да цёткі Гандзі, якой 90 гадоў.

— Ой, Андруша, — сказала яна, — смерць не прыходзіць, не ведаю чаму; не бачу, не хаджу і так жыву ад раніцы да вечара, добра, што дачка з зяцем даглядаюць.

Зайшоў я яшчэ ў краму Міколы Вакулеўскага пад Бельскам, які ўжо пяць гадоў вядзе прадуктовы магазін. Насупраць яго Іван адкрыў бар „У Джона", дзе культурна можна выпіць чарку гарэлкі, віно або піва.

І так, правёўшы тры дні ў Бельску і наваколлі, вярнуўся я зноў у Ольштын, бо праца чакае. Пра ўсё, што бачыў новае, і напісаў, каб чытачы прачыталі. Усяго вам добрага!

**Андрэй Гаўрылюк**

# Людзі на балоце

*(працяг са стар. 1)*

біла б непазбежным узаконенне гэтых другіх, паколькі грамадзяне, галасуючы ў рэферэндуме, галасавалі б і ў давыбарах. Такім чынам Вярхоўны Савет замацаваў бы сваю пазіцыю. Поўны колькасна Вярхоўны Савет быў бы праўдападобна яшчэ больш антыпрэзідэнцкі, паколькі былі спадзяванні, што папоўняць яго галоўным чынам апазіцыянеры.

Выбаршчыкі Лукашэнкі гэта шэрыя людзі. Наогул яны ў палітыку не ўмешваюцца. Тое, дзеля чаго робіцца чарговы рэферэндум, магло быць для гэтых людзей не зусім ясным. Вярхоўны Савет і так зацвярджаў усё, што задумаў прэзідэнт ды выказваўся за аб'яднанне з Расіяй. Такім чынам, каб выцягнуць сваіх прыхільнікаў з хаты, прэзідэнт мусіў паказаць ім ворага. Вярхоўны Савет не мог згадзіцца на далейшую самаволю прэзідэнта, бо гэта абазначала б канец Вярхоўнаму Савету. Таксама кіраўніцтва Беларускага народнага фронту не магло не падтрымаць Вярхоўны Савет у змаганні з прэзідэнтам, паколькі было перакананае, што разгон парламента абазначае канец якой-небудзь легальнай апазіцыі. І прэзідэнт мог паказаць народу: „Вось мае ворагі: камуністы і нацыяналісты". Дарэчы, якраз у гэтым прэзідэнт не хлусіў. Магчыма памыляюся, але не варта было Фронту лезці ў гульню, у якой прадбачвалася яго прыхільнікам роля выключна гарматняга мяса.

Нарэшце, ёсць усё-такі і такая магчымасць, што прэзідэнт зняверыўся ва ўсенародную падтрымку сваёй асобы. Хаця амаль усе пішуць пра тое, што прэзідэнт Лукашэнка мае такую падтрымку, можна ў гэтым сапраўды сумнявацца. Гэтыя самыя людзі, якія называюць прэзідэнта Беларусі „калхознікам", усю Беларусь уяўляюць сабе як калгас. Тым часам прэзідэнт Беларусі — гэта афіцэр-палітрук, а на вёсцы жыве ўсяго 30% беларусаў. Так што калгаснікаў ніяк не хапае, каб атрымалася ўсенародная падтрымка.

Да таго ў шматлікіх сельскіх раёнах у Заходняй Беларусі кандыдаты БНФ ва ўсяго роду выбарах атрымоўвалі больш за 30% галасоў. Не ведаю, як у іншых гарадах, але ў Мінску панавала перш за ўсё пазіцыя назіральніцтва. Наогул усе каментатары падкрэсліваюць, што падтрымку Вярхоўнаму Савету дэманстравала на плошчы Незалежнасці толькі некалькі тысяч чалавек. Але ж у гэты самы час нічым скончыліся двухдзённыя намаганні адміністрацыі прэзідэнта склікаць на гэтай жа плошчы мітынг у падтрымку Лукашэнкі. На заводы былі падстаўлены адмысловыя аўтобусы, але ніхто ў іх не сеў. Людзі, выходзячы з працы, проста прайшлі міма. На плошчы з'явілася ўсяго некалькі соцень прыхільнікаў прэзідэнта.

Вечарам у чацвер выглядала, што прэзідэнта падтрымоўвае ўжо толькі камандзір яго асабістай аховы, які выступіў па тэлебачанні з заявай, што пануе над сітуацыяй. Вярхоўны Савет загнаў прэзідэнта ў кут, аб чым відавочна сведчыў яго спарэлы твар.

Усё-такі Вярхоўны Савет таксама не адважыўся правяраць, колькі людзей будзе яго падтрымоўваць да самага канца. Здаецца, зрэшты, што не столькі не меў адвагі, што наогул аб нечым такім і не думаў. Вярхоўны Савет дзейнічаў паводле адзінага вядомага сабе савецкага ўзору. Аб'явіўшы імпічмент прэзідэнту, звярнуўся пра канчатковае рашэнне ў Маскву (чытай: ЦК выказаў недавер рэспубліканскаму першаму сакратару і звярнуўся аб рашэнні да ўсесаюзнага ЦК). Трэба ж было бачыць (у расійскім тэлебачанні) як старшыня Вярхоўнага Савета Сямён Шарэцкі ўпіўся ў губы старшыні расійскай Думы Генадзя Селязнёва. Проста — з засосам. Не памагло. Расіяне вырашылі падтрымаць прэзідэнта Лукашэнку.

„Барин приехал, барин рассудил". У пятніцу раніцай стала ясным, што ніякая беларуская дзяржава не існуе.

Выдатныя расійскія дзяржаўныя дзеячы сталі заяўляць публічна, што беларуская армія і КДБ фактычна расійскія (што, дарэчы, тлумачыць іхнюю пасіўнасць ва ўсіх падзеях). Прэзідэнт Лукашэнка за адну ноч з усенароднаабранага стаў нічым не прыкрытым маскоўскім стаўленікам.

Калі наглядаеш дзеянні беларускіх палітыкаў, згадваеш загаловак Мележавага рамана „Людзі на балоце". Беларускае грамадства ў сэнсе палітычным напамінае „балота" вядомае з парламента рэвалюцыйнай Францыі. Толькі булькнула, калі ў твань праваліўся з галавою Пазьняк. Чуцен толькі яго голас з іншага свету. Ізноў толькі булькнула, калі ў след за Пазьняком танулі Шушкевіч, Кебіч, Грыб, Шарэцкі. Усе, хто так заядла і бяздумна змагаўся за ўладу над гэтым балотам. Прэзідэнт Лукашэнка сядзеў ужо ў балоце па шыю і выратавала яго толькі пададзеная ў час рука Масквы.

Усё-такі на гэтым балоце паволі растуць і мацуюцца астраўкі сушы. Такія астраўкі ствараюць кожная палітычная, культурная ці прафсаюзная арганізацыі, кожны прыход, парафія і збор. Упарта будуюць свае астраўкі сушы прадпрымальнікі. Мільён самых малых, але сваіх стварылі тыя, хто за незалежную Беларусь.

Беларусь — гэта не „чорная дзірка", як здаецца шмат каму ў свеце, нават у суседняй Польшчы. Краіна мяняецца, хаця паволі і для чужога вока непрыкметна і мяняецца не так, як хацелася б рознага роду праектантам яе шчаслівай будучыні.

На канец выкажу думку, якая пэўне як шмат кім успрымецца як ерась.

Не люблю я ні г.зв. народу, ні прэзідэнта Лукашэнкі. Усё-такі прэзідэнт Лукашэнка гэта першы ў гісторыі Беларусі (не лічачы часоў легендарнага полацкага веча) кіраўнік, які запытаўся ў народа, што ён думае пра самыя істотныя пытанні. Сталася так у першым рэферэндуме. Адказ быў адназначны і сэнсу гэтага адказу не мяняе закалот з цяперашнім рэферэндумам.

Адказ дадзены народам мне не даспадобы. Усё-такі беларуская дзяржава мае быць для людзей. Можна заганяць іх у беларускасць крыкам, як гэта рабіў БНФ, можна і тэрорам. На маю думку, Беларусь ужо апынулася на мяжы тэрору. Тым не менш, калі лічыць далучэнне Беларусі да Расіі шкодным, дык самы просты, а можа і адзіны спосаб, каб пераканаць аб тым беларусаў, гэта здзейсніць гэтае далучэнне. Калі акажацца, што далучэнне сапраўды шкоднае, безумоўна з'явіцца беларускі нацыянальна-вызвольны рух, які атрымае грамадскую падтрымку.

Апошнія падзеі паказалі зрэшты, што ніякай рэальнай грамадскай сілы па-за беларускім нацыянальным рухам у Беларусі не існуе.

Адзін гарласты расійскі журналіст прадугледзіў ужо будучы статус Беларусі ў рамках Расійскай Федэрацыі. Гэта мае быць такі самы статус як у Чачні. Два гады таму, калі пачалася расійска-чачэнская вайна, напісаў я ў „Ніве", што Расіі не выйграць гэтай вайны. Таксама не ўтрымаць ёй Беларусі супраць волі саміх беларусаў.

**Алег Латышонак**



*Вуліца Кастуся Каліноўскага ў Мінску.* Фота з архіва

# Лэмкаў таксама прывезлі

Часта маем нагоду пачуць ці прачытаць выказванні беластоцкіх маральных аўтарытэтаў, якія лічаць, што тутэйшыя беларусы з'яўляюцца прадуктам русіфікацыйнай палітыкі царскіх улад. Зразумела, русіфікацыі падвяргаліся палякі, таму, даказваюць успомненыя спадары, у сапраўднасці няма тут ніякіх беларусаў. Не здзіўляе, што не інакш думае і просты мясцовы люд.

Будучы нядаўна ў ваколіцы Мушыны, Крыніцы, Паўрозніка, што ў Бескідах, меў я нагоду паслухаць гіда школьнай экскурсіі, які тлумачыў дзеткам адкуль узяліся царкоўкі на фоне горнага краявіду. Пабудавалі іх лэмкі, гэта такія рускія ці ўкраінцы, якіх пасялілі на польскай зямлі чужыя ўлады ў той час, калі айчына была ў няволі, — тлумачыў школьнікам гід, якому было пад сорак гадоў. Не сказаў ён аднак, што там, у Карпатах, той чужой уладай былі аўстрыйцы, пакідаючы такім чынам у маладых людзей уражанне, што лэмкаўскія цэрквы ўзніклі таксама ў выніку маскоўскай інтрыгі. Падчас экскурсіі дзеці маглі таксама даведацца, што лэмкі змагаліся ў радах Украінскай паўстанчай арміі і таму, каб забяспечыць спакой на поўдні Польшчы, трэба было іх перасяліць у рамках акцыі „Вісла" на поўнач краіны. Але цяпер вяртаюцца яны сюды, — паінфармаваў гід, — і хочуць, каб улады аддалі ім іхнюю зямлю, лясы, горы. Ужо нават некаторыя ўсё гэта атрымалі. „Doszło do tego, że mniejszości narodowe są w tej chwili uprzywilejowanymi grupami obywateli, a Polacy w swoim kraju muszą cierpieć. Najpierw ich naprzywozili do Polski, a oni teraz nam grożą". Штосьці неверагоднае — тры кіламетры ад славацкай мяжы можна пачуць амаль такія ж самыя словы ў адрас меншасцей, як і ў Беластоку. Цікава, што тут і там, непалякаў-аўтахтонаў прадстаўляюць як чужы, варожы дэсант, якога мэтанакіраванае існаванне — шкодзіць палякам.

З другога боку, у цікавы спосаб фарміруецца думка маладога пакалення „крэсовых рыцараў". Нават дзіця ўжо ведае, што ёсць нейкія нацыянальныя меншасці і што гэтыя людзі з'яўляюцца нечым дрэнным, непатрэбным. Якія грамадзяне вырастуць з гэтых школьнікаў, калі талерантнасці будуць вучыць іх такія настаўнікі, як той бескідскі гід?

**Яўген Міравовіч**

# Новыя вершы

## Беларусь

Беларусь. Тут пяшчотнымі песнямі
Серабрыстыя рэкі звіняць,
Тут азёры вачыма дзявочымі
У высокае неба глядзяць,
Тут дубы векавечныя волаты
У нетрах пушчаў размовы вядуць,
А купальскаю ноччу цудоўнаю
Тут чароўныя кветкі цвітуць.

Сэрца рвецца ад немага крыку.
У азёрах званы ўжо б'юць
І заходзяцца нетры ад рыку
Прадаюць Беларусь! Прадаюць!

Крывасмокі, што цягнуць нам жылы,
І імкнуцца унікнуць канца.
Прадаюць, што дзяды потам-кроўю нажылі,
Прадаюць як Іуда Хрыста.

За трыццатку з драпежнае лапы тырана,
На якой не засохла чачэнская кроў.
Сутэнёры Радзімы і здрад ветэраны,
Халуі чужакоў, халуі халуёў.

А што ты мой народзе згоднапакорлівы
Усё летаргам скуты спіш — не ўстаеш?
Ты ж паддаўшыся тым ваўкалакам адкормленым
Прадаеш Беларусь! Беларусь прадаеш!

Ты яе і сябе прадаеш!

Беларусь, дзе пяшчотнымі песнямі
Серабрыстыя рэкі звіняць,
Дзе азёры вачыма дзявочымі
У высокае неба глядзяць.
Дзе дубы векавечныя волаты
У нетрах пушчаў трывожна гудуць.

А купальскаю ноччу цудоўнаю
Тыя кветкі тут зноў зацвітуць!

**Алесь Залескі**

# Старонка ліцэіста

## Ганенне катоў

„Jeszcze Polska nie zginęła, póki my żyjemy..." перамешанае з гучным „хіхіканнем" неслася ў 7.20 зранку па заспаным яшчэ Гайнаўскім белліцэі. Неўзабаве польскі гімн абрываецца. Няўжо „адпусцілі" камусьці? Не, праз хвіліну па школьных калідорах нясецца песня „To nie ja byłam Ewą", співаная трагічным басам.

Такі сцэнарый, толькі са зменлівым музычным рэпертуарам, паўтараецца штогод у многіх школах. Старэйшыя „калегі" бяруць, а хутчэй за ўсё зацягваюць навапрыбыўшага вучня ў туалет. Там „заказваюць" сабе песні, якія перапалоханы вучань мусіць заспяваць. Добра, калі першакласнік выходзіць з гэтай „szafy grającej" сухі. Збунтаваных і немузыкальных палiваюць вадой, што пры нізкай тэмпературы можа скончыцца дрэнна.

У Гайнаўскім белліцэі занятак „ганення катоў" (кот — першакласнік) пачаўся некалькі гадоў таму. Дакладна тады, калі школа перанеслася ў новы будынак, калі стала вучыцца ў ёй штораз больш і больш моладзі, расла ананімнасць.

У Гайнаўцы і так белліцэй — найспакайнейшая школа. Першакласнікам добра тут жывецца.

Бясспрэчна, найбольш распаўсюджанай формнай „ганення" ёсць даванне катам сшыткаў, у якіх маюць зрабіць яны старэйшым „калегам" палі. Магло б здавацца, што падобнае адмірае, бо нялёгка ўжо знайсці сшытак без фірменных палёў. Для больш злаславых гэта не праблема. Штогод некалькі асоб рысуюць клетачкі ў чыстых сшытках... Акцыю „салідарныя з катамі" на канікулах і ў пачатку верасня правялі некаторыя гайнаўскія прадаўцы. Калі нехта папрасіў сшытак без палёў, прадавец выганяў такога (відавочна маладога чалавека) з крамы, або пасылаў яму „вязанку" мацнейшых слоў.

„Ганенне" пачалося і хіба закончыцца таму, што сёлета (чаго не хапіла ў два апошнія гады) педагагічная рада вострa зарэагавала на першыя сімптомы „ганення". Кожны, хто „паганяў", меў быць выкінуты са школы. Гэтая прафілактыка падзейнічала, бо нікога са школы як да гэтай пары не выкінулі.

На канец усім будучым прыгнятальнікам першакласнікаў раю захаваць энергію і новыя думкі на атрасіны. Па-першае — меншае праўдападабенства хуткага развітання са школай, па-другое — „што адцягнецца, не ўцячэ" — каты і так прымуць „баявое хрышчэнне". Гэтак званым „катам" раю не даца запалохаць у школе. І так заплаціце сваё на атрасінах!

**Тамаш Саевіч**



Фота Ганны КАНДРАЦЮК

*Удзельнікі VI Сустрэч „Зоркі". Першы справа: Тамаш Саевіч, а побач — ліцэістка Аня Фіёнік.*

## Дванаццаць воблікаў Айчыны

Дванаццаці маладым людзям з II Агульнаадукацыйнага ліцэя ў Гайнаўцы мы ставілі пытанне: „Чым для цябе Айчына". Гэтае пытанне для большасці было клапатлівым. Вось іх адказы:

**Павел:** — У гэты момант не мае большага значэння. Інакш было б, калі б была вайна.

**Адам:** — Самая высокая вартасць, за якую гінецца. Я загінуў бы за Айчыну.

**Агнешка:** — Не ведаю, бо не магу акрэсліць, ці гэта Польшча, ці Беларусь. Таму стараюся аб гэтым не думаць.

**Юстына:** — Айчына там, дзе жыву, дзе нарадзілася. Айчыну атаясамліваю з нацыяй. Я не адчуваю сябе прыналежнай да ніякай нацыянальнасці.

**Сафія:** — Не ведаю, што гэта Айчына. Я выхавалася на памежжы дзвюх культур. Айчыну атаясамліваю з акрэсленай групай людзей, якія ў нешта вераць, з дзяржавай.

**Тамара:** — Айчына асацыюецца мне з гімнам, сцягам, мовай. Для мяне яна мае значэнне, гэта ўся Польшча.

**Каська:** — Гэта месца нараджэння бацькоў. Не атаясамліваю яе з краінай, толькі з месцам, дзе адчуваю сябе найлепш. Што значыць для мяне Айчына, я пераканалася пасля выезду з яе. Толькі тады я адчула яе існаванне. Цяпер ведаю, што я павінна быць там, вярнуцца да Айчыны.

**Эдыта:** — Людзі, з якімі я звязана. Напэўна гэта не Польшча. З Айчынай асацыюецца мне рэлігія, карані.

**Адрыян:** — Адразу маю перад вачыма абрыс межаў Польшчы. Многа напэўна для мяне не значыць. З Айчынай як са здароўем, правільна ацэніш яе толькі страціўшы.

**Тамаш:** — Айчына? — Свая нацыя, месца, дзе нарадзіўся. Нічога больш.

**Івона:** — Так як у анекдоце „Маці Казіка". Прызыўная камісія пытае першага рэкрута: „Чым для вас Айчына?" Рэкрут адказвае: „Маці". Тое самае пытанне ставяць наступнаму рэкруту. Запалоханы адказаў: „Маці Казіка".

**Юліта:** — Я не патрыётка, але для мяне гэта месца, да якога заўсёды мне будзе можна вярнуцца. Змяшчаецца ў межах майго існавання.

А для цябе, чытач, чым Айчына?

**Тамаш Саевіч**

**Кацярына Ігнаццева**



Фота Ганны КАНДРАЦЮК

*Міхась Дзмітрук, ліцэіст Бельскага беларускага ліцэя, ад пачатку дапамагае ў Сустрэчах „Зоркі".*

## The Dwery

The Dwery — гэта група маладых людзей, якія хочуць нешта зрабіць для беларускай культуры. Вядома, пачатак заўсёды цяжкі, дык і ім нялёгка. На маё пытанне: „Дзе спатыкаецеся?" — адказалі жартам: — „Пачынаем як кожная «добрая» група — у гаражы".

Гурт складаюць: ліцэістка Кацярына Дробат „Бабэль" (вакал), Марыюш Гарустовіч „Горы" (сольная гітара), Марк Дробат „Бобі" (бас-гітара) і Андрэй Плева „Трава" (бубны).

Доўга думалі пра сваю назву і трэба прызнаць, што цяперашняя, The Dwery уражвае.

— Мы проста гэтак сабе думаем, — кажуць. — Гэтая назва вельмі добра да нас пасуе, бо мы ўсё чагосьці шукаем...

— А што гэта за музыка? Як яе акрэсліць? Ці гэта рок, блюз, ці метал?

— Гэта не наша праблема. Безумоўна, ёсць у ёй розныя элементы. Стараемся папаўняць адзін аднаго, стварацць адно згуртаванае цэлае. Кожны з нас цікавіцца іншым відам музыкі, кожны мае свайго ідала. Кася любіць „Red Hot Chilli Peppers", „Горы" хоча быць такі добры як Lica з Acid Drinkers, „Бобі" захапляецца Стынгам, а „Трава" бярэ прыклад з Larsa Urlicha з „Metallici".

— Дык як гэта так? Граеце іхнія творы?

— Не, вядома не, — адказваюць хорам. — Мы лічым іх „добрымі ў сваёй прафесіі", але музыку ствараем сваю. Кожны дае штосьці ад сябе. Думак маем шмат.

— А тэксты?

— Словы да тэкстаў чэрпаем са зборнікаў беларускіх паэтаў.

**На пачатку было...**

Сваім пачаткам „The Dwery" лічаць выступ на „Басовішчы'96". Там першы раз іх пачулі. Тады яшчэ не было з імі Касі, якая далучылася зусім нядаўна.

— Кася раней навучылася спяваць, чым гаварыць, — жартуе яе брат. Ужо здаўна ўдзельнічала ў аглядах „Беларуская песня", і з другога класа пачатковай школы належыць да царкоўнага хору прыхода Св. Тройцы.

Яе брат „Бобі" з музыкай меў дачыненне ў сярэдняй школе, дзе разам з Андрэем гралі ў духавым аркестры. Што тычыцца Марыюша, дык гітара — яго захапленне.

— Чаму спяваеце якраз па-беларуску?

— Гэта звязана з нашым паходжаннем. Нашы бацькі і дзяды гаварылі і гавораць на гэтай мове, дык чаму ж мы не маем гэтага прадаўжаць. Трэба нешта рабіць, трэба паказаць, што беларуская музыка — гэта не толькі „гармошка" і „тамбурын"... Гэта музыка, якую можна граць у такой форме, якую мы прапануем. Мабыць гэта дазволіць нам больш зблізіцца да карэнняў нашай культуры.

Кожны свабодны момант для нас бясцэнны, бо якраз тады сустракаемся і ствараем. У гэтым месцы хацелі б падзякаваць цярплівым бацькам і брату Марыюша, якія даюць нам месца і інструменты. Усё-такі, каб развівацца, мусім мець свае інструменты, а дзеля гэтага спонсара і менеджэра.

— Дзякую за размову і жадаю поспехаў.

**Кацярына Андраюк**

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# Навагодні конкурс „Зоркі”

VII Сустрэчы „Зоркі” будуць іншыя як усе папярэднія мерапрыемствы. Сябры „Зоркі” рашылі наладзіць іх у форме вялікага навагодняга конкурсу. У ім змогуць прыняць удзел усе нашы чытачы і сімпатыкі.

Вашай задачай будзе апісаць традыцыйныя, навагоднія абрады. Такія цікавіны могуць памятаць яшчэ вашы дзяды, бабулі ці нават бацькі.

Пішучы пра навагоднія абрады, вы павінны назваць сваіх інфарматараў, іх узрост, а таксама мясцовасць, з якой яны родам. Тэмы могуць быць агульныя або канкрэтныя. Вось, напрыклад, можаце пісаць толькі пра варажбу, пра стравы ў багаты вечар або пра ўсё разам, пра што вы пачулі. Ваша праца павінна памясціцца на двух старонках карткі фармату А-4. Працы просім даслаць у трох экземплярах. Замест подпісу прыдумайце сабе мянушку. Добрым прыкладам апісання народных традыцый ёсць артыкул Ані Дзмітрук і Ані Крышпінюк „Як калісь спраўлялі дажынкі” ў „Зорцы” н-р 49.

Дзеці, якія больш любяць маляваць, чым пісаць, могуць даслаць на гэтую тэму малюнкі.

Конкурснае журы выбярэ чатырох пераможцаў. Гэтыя асобы будуць удзельнікамі тыднёвых IX Сустрэч „Зоркі”, якія правядзем у час зімовых канікул (кошт такіх варштатаў 300 зл. — тры мільёны старых злотых). Узнагароджаныя тэксты апублікуем у „Зорцы”.

Працы трэба даслаць да 31 снежня г.г.

Жадаю поспехаў!

**Ганна Кандрацюк**

# Пачынаецца зіма

За акном
Завея кружыць.
Лёд скаваў
Раку і лужы.
І сняжынкі матылькамі
Носіць вецер
Над лугамі.
Лес гудзе,
Нібы сурма.
Пачынаецца зіма.

**Леанід Пранчак**



*Дарога ў Палічну. Вандруюць удзельнікі VI Сустрэч „Зоркі”.*

# Пішуць вучні з Трасцянкі

У нашай школе беларускую мову вывучае 19 вучняў. Мы вельмі ахвотна ходзім на ўрокі роднай мовы. Часта на ўроках карыстаемся Вашымі артыкуламі, вершамі і казкамі. Нас вельмі зацікавіла казка „Мена” і „Цягаў воўк авечкі, пацягнулі і воўка”. Гэтыя казкі скрываюць у сабе глыбокую думку. Таму мы супольна з нашай настаўніцай стараліся дакладна прааналізаваць іх змест.

**Вучні Пачатковай школы ў Трасцянцы**

**Ад рэдакцыі:** Прывітанне, сябры! З прыемнасцю завітала б я ў вашу школу. Цешыць мяне, што ведаеце і чытаеце нашу беларускую газетку.

**Зорка**

# Польска-беларуская крыжаванка № 50

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 46:** арол, банкух, лістапад, лаз, анагр, зала, ніз, факс, рута, бохан, ліпа, маг, кадр.

Узнагароды — **запісныя кніжкі „Sevilla”** — выйгралі:

**Альжбета Здраеўская**, ПШ у Новым Корніне, **Пятрусь Янкоўскі**, ПШ у Бельску-Падляшскім, **Гжэгаж Снарскі**, ПШ у Нарве, **Барбара Антанюк**, ПШ у Дубінах, **Малгажата Мартонік**, ПШ у Гарадку, **Анэта Купрыяновіч**, ПШ у Кленіках, **Ева Кот**, ПШ у Дубінах і **Данеля Дудзіч**, ПШ у Ласінцы. **Віншуем!**

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Allach | | Jedzenie / Tył | Morze / Mur | | | | Róża / Kret | | | | |
| Ostrze / Podróżnik | | | | | Jan / Wyobrażenie | | | | | Rzeka / Tort | |
| | | | | | | | | | | | |
| Chód | | | | | | | Kwit / Takt | | | | |

# Казка пра смелага Івана

Жыў-быў адзін ляснік. І было ў яго тры сыны: Дзям'ян, Сцяпан ды Іван. Пасеяў аднойчы ляснік жыта. Раніцай прыходзіць дахаты і кажа:

— Сыны мае! Нейкі зладзюга ў нашае жыта занадзіўся. Палову загона ўжо стаптаў. Як далей так будзе, прыйдзецца нам адным мясам карміцца.

А трэба вам ведаць, што калісь усе дзеці бацькоў сваіх слухалі.

— Пайду пільнаваць, — сказаў Дзям'ян. І пайшоў адвячоркам у лес. Пахадзіў ён, пахадзіў, нічога не згледзеў, дахаты вярнуўся.

— Цяпер мая чарга, — сказаў Сцяпан і рушыў сцерагчы жыта. І гэты адно прайшоўся па лесе, праветрыўся, дахаты вярнуўся.

Цяпер выправілі Івана. Пайшоў Іванка ў лес, залез на дуб і чакае злодзея. Сядзеў ён, песні для смеласці падспеўваў, аж бачыць — чарада дзікоў у жыта бяжыць. Раніцай Іван злез з дуба, выкапаў вялікую яму, накрыў яе голлем, ды мохам, а вечарам зноў на дзерава залез і чакае. Тыя дзікі ў жыта беглі і ў яму ўсе праваліліся. Іван злез з дуба, дахаты пабег.

— Тата, я злодзея злавіў. Гэта дзікі наша поле церабілі.

Браты не верылі Івану. Смяяліся з яго. Пайшлі ў лес тых дзікоў пабачыць. А там, і праўда, у яме чарада дзікоў квічыць і калоціцца. І стала зайздросна братам, што гэта не яны злодзея злавілі.

— Давай, Сцяпан, Івана са свету звядзем, — сказаў Дзям'ян.

— Добра, браток, давай!

Прыйшлі зайздросныя браты да бацькі і гаворацЬ:

— Іван ілгун засмарканы. Гэта мы тую яму выкапалі. Гэта мы гэтых злодзеяў злавілі. А Іван нічога не рабіў! Цяпер адно славу хоча забраць.

Бацька выслухаў старэйшых сыноў і сам не ведае, што думаць.

— Як жа папраўдзе, Іванка, было? Ці праўду ты нам расказаў?

Крыўдна стала Івану. Узяў ён свайго сабаку і пайшоў у свет. Ішоў ён, ішоў, у трыдзесятае царства зайшоў. На гары сівога дзядулю сустрэў.

— Чаго, дзядзька, плачаш? — папытаў Іван старога.

— А як жа мне не плакаць, сынок. Была ў мяне адна дачка і тую змей украў!

Іван стаў суцяшаць дзядулю.

— Не плач, чалавечку, я найду тваю дачку!

І пайшоў Іван у дарогу. Ішоў ён доўга ці коратка, да сіняга мора прыйшоў. Стаў і думае, што далей рабіць трэба. А тут як узбурыцца мора, як завые. З вады зялёна-жоўты змей паказаўся.

— Хто ў маім двары-царстве нагу паставіў! — зароў гад.

Іван не драмаў. Зразу пачаў змагацца са змеем. І доўга яны сілаваліся, біліся. Іван добры быў. Заўсёды людзям памагаў. За гэта яму і свет дапамог. Ужо выглядала, што змей яго задушыць... Аж тут, лясь, маланка з неба! Забіла яна дый і датла спаліла гадзюку. Калі Іван дайшоў да сябе, ледзь паверыў у пабачанае. Але не было часу на святкаванне справядлівай перамогі. Пайшоў Іван у марскі палац дзеда дачку шукаць. А як пабачыў яе, прыгажуню, адразу ж у яе закахаўся. Завёз ён тую дзяўчыну да бацькі і папрасіў яе за жонку.

Дзед рады, што Іван яму дачку вярнуў. Зараз жа і вяселле згулялі. Стары аддаў маладым сваю гаспадарку, а сам неўзабаве ўнукам казкі ўжо расказваў.

А злыя браты, Сцяпан ды Дзям'ян, па сённяшні дзень нежанатымі ходзяць.

**Зорка**

# VI Сустрэчы „Зоркі” 22-24.XI — Старына

VI Сустрэчы „Зоркі” былі прысвечаны тэарэтычнай і практычнай навуцы пісання рэпартажу. У мерапрыемстве прыняло ўдзел 46 асоб. Апрача пастаянных карэспандэнтаў „Зоркі” з намі былі дзеці і настаўнікі ПШ у Дубічах-Царкоўных. На працягу трох дзён мы не толькі плённа працавалі, але і адпачывалі ад гарадской мітусні. Сустрэчы завяршыліся конкурсам на найлепшы рэпартаж. Пяць узнагароджаных юных рэпарцёраў паедуць у палове мая 1997 года на тыднёвыя сустрэчы ў Гданьск.

Рэдакцыя „Зоркі” сардэчна дзякуе ўсім спонсарам, якія дапамаглі здзейсніць незабыўныя, дзіцячыя VI Сустрэчы „Зоркі”:

**Гміннай управе ў Дубічах-Царкоўных,**
**Войту Гміны ў Дубічах-Царкоўных сп. Анатолю Паўлоўскаму,**
**Дырэкцыі ПШ у Дубічах-Царкоўных, сп. Ніне Добаш-Карпюк,**
**Спульдзельчаму банку ў Кляшчэлях і**
**Польскаму фонду дзяцей і моладзі з Варшавы.**

**Галоўны арганізатар**
**Ганна Кандрацюк**



*Незабыўная вечарына.*

---

Я хачу падзяліцца ўражаннямі ад пабыўкі на сустрэчах „Зоркі”. Першага вечара мы спявалі песні „Стэфка”, „Маналог паўстанцкага каня”, „Аксамітны летні вечар” і іншыя. У суботу 23 лістапада нас падзялілі на тры групы і мы пайшлі па вёсках збіраць матэрыял для рэпартажаў. Першая група пайшла ў Доўгі Брод, другая — у Вэрсток, а трэцяя — у Палічну. Па дарозе мы пабачылі вятрак. Ён яшчэ ў добрым стане. Яго пабудавалі ў XIX стагоддзі. Пераняў яго гаспадар. У Войнаўцы сп. Юнаш расказаў нам гісторыю вёскі. У Вэрстоку на могілках глядзелі мы мармуровы помнік з 1807 года. Мы аглядалі таксама старадаўні млын у Карыцісках і старую хату з паловы XIX ст. Мікола Ваўранюк і Ганна Кандрацюк расказвалі нам як пісаць рэпартаж. Пазней адбылася вечарына, на якой мы спявалі беларускія песні.

24 лістапада мы спаткаліся яшчэ на снеданні.

Мне вельмі падабаліся VI Сустрэчы ў Старыне. Хачу паехаць яшчэ на такую імпрэзу.

**Марцін Мялешка,**
**в. Катоўка**
**VII кл. ПШ у Новым Корніне**

---

У Старыне я спаткала сяброў з папярэдніх сустрэч і пазнаёмілася з іншымі дзецьмі. У першы вечар мы добра гулялі, праводзячы вечарыну. Вучыліся мы новых песень, спявалі і размаўлялі. Песня „Там у полі два дубочкі” — гэта ўжо традыцыйная песня сустрэч. Мы заўсёды спяваем яе з падзелам на хлопцаў і дзяўчат, прыдумваем словы. Гэтыя спевы я вельмі люблю. Тым больш, што дзяўчаты заўсёды пераспяваюць хлопцаў. Ноччу я і сяброўка Ірэна не маглі нагаварыцца. Раніцай прыехалі да нас вучні з дубіцкай школы. Мы падзяліліся на групы і пайшлі на экскурсіі. Наша дарога вяла цераз лес, у вёску Доўгі Брод. Там мы спаткалі цікавага чалавека Цімафея Білевіча. Інтэрв'ю з ім было вельмі цікавае. Зваротная дарога лесам у школу была вельмі прыемная. Вярнуўшыся, усе паехалі ў дубіцкую школу на абед. Па дарозе мы пабывалі ў двух цэрквах. Вечарам вучні з Дубіч правялі цікавую вечарыну з песнямі і вершамі. Раніцай у пяць гадзін я паехала дахаты.

Гэтае спатканне вельмі мне падабалася. Дарагая „Зорка”, дзякую за запрашэнне!

**Яся Сегень,**
**VIII кл. ПШ у Курашаве**



*Найдужэйшыя дайшлі ў Доўгі Брод.*

---

На сустрэчах „Зоркі” была я ўжо трэці раз. Мне вельмі там падабалася. Апошняе спатканне адбылося ў Старыне. Прыехала я туды вечарам 22 лістапада. Найбольш цешыла мяне тое, што там я сустрэла сваіх сяброўак: Ясю Сегень, Аню Садоўскую, Жанэту Ролю і многа іншых, а таксама сяброў. Прыемна было пазнаёміцца з новымі людзьмі, якіх прыехала сюды нямала.

У пятніцу, пасля вячэры, мы зрабілі вечарыну, на якой настаўнік геаграфіі спадар Славамір Кулік многа расказваў пра Старыну і наваколле. У гэты вечар мы таксама спявалі песні. Найпрыгажэй рабіла гэта сяброўка з беларускага прадшколля Наталька. Наступнага дня, раніцай, прыехалі вучні некаторых класаў ПШ у Дубічах-Царкоўных з настаўніцай беларускай мовы спадарыняй Галінай Трашчотка. У праграме былі экскурсіі ў Доўгі Брод, Палічну і Вэрсток. У сувязі з тым падзяліліся мы на тры групы. Я хацела наведаць Доўгі Брод — прыгожую мясцовасць, якая налічвае 30 жыхароў. Найбольшае ўражанне рабілі высокія, тоўстыя дрэвы, якіх многа ў Белавежскай пушчы. Абед з'елі мы ў школьнай сталоўцы ў Дубічах. Потым пазнаёміліся з гісторыяй царквы. Наведалі таксама іншыя цікавыя мясціны ў гміне. Вечарам спадар Дарафей Фіёнік прыгожа спяваў, іграючы на гітары. На вечарыне была прысутная спадарыня дырэктар Ніна Добаш-Карпюк з мужам, айцец Славамір Аўксецяюк — настаяцель Дубіцкага прыхода і многа іншых, таксама важных людзей. Галіна Трашчотка і мы — вучні дубіцкай школы — на гуртку беларускай мовы прыгатавалі ўдзельнікам сустрэчы сцэнку пад загалоўкам „Мне засталася спадчына”. На канец вечарыны, мы спявалі, а спадар Славамір Кулік зрабіў шмат цікавых здымкаў. З увагі на тое, што сябры са школы вярталіся суботнім вечарам, я развіталася з усімі. Цяжка было расставацца з так цікавымі і заўсёды вясёлымі людзьмі.

Гэтая сустрэча, як і іншыя, на якіх я была, астанецца ў сэрцы, думаю, да апошніх дзён жыцця.

**Ірэна Кулік,**
**вучаніца VIII класа**
**ПШ у Дубічах-Царкоўных**



*Пастаянныя супрацоўнікі „Зоркі”.*



*Нашы госці. Справа: сп. Ніна Добаш-Карпюк, айцец Славамір Аўксецяюк.*

## Беларусь у першую сусветную вайну

У канцы лістапада гэтага года ў Беластоку выйшла друкам кніга беларускага эмігранта ў Вялікабрытаніі Юры Весялкоўскага — *Беларусь у Першай Сусьветнай вайне**. Кніга гэтая адзначаецца вялікай накопленасцю матэрыялу, але, як здаецца, без характэрнага гістарычнаму доследу адбору і сістэматызаванасці гэтага ж матэрыялу. Факт гэты спараджае як адмоўныя, так і станоўчыя прыкметы выдання. У адмоўныя можна залічыць тое, што аўтар зафіксаваў у кнізе ўсё, што ведаў на дадзеную тэму. А мэта доследу не ў тым, каб пісаць усё, што вядома, але ў тым, каб напісаць пра тое, што чытацкай масе новае. На мову гістарычнай практыкі гэта перакладаецца такім чынам, што гістарычныя доследы прысвечаныя нагул нейкаму вузкаму аспекту шырэйшай тэмы. У кнізе Ю. Весялкоўскага такой выразнай засяроджанасці няма.

Ёсць аднак у кнізе і такія элементы, якіх часам дарма шукаць у прафесійных апрацоўках. Аўтар, пішучы без накінутых гэтак званай метадалогіяй рамак, прадставіў дзе-нідзе такую афарбоўку фактаў, якая ці то па прычыне сваёй малаістотнасці, ці для падтрымання нацыянальнага міфа, не з'явілася ў іншых выданнях. Прыклад такога мы знаходзім на стар. 214, дзе апісваецца выбар польскіх прадстаўнікоў на канферэнцыю ў Версалі. Такі, можна сказаць, нестандартны падыход пэўна ж стаў магчымым і таму, што пры пісанні кнігі аўтар скарыстаў шмат англамоўных выданняў, якія дакранаюцца да гісторыі Беларусі з пачатку гэтага стагоддзя. **(са)**

* Юры Весялкоўскі, *Беларусь у Першай Сусьветнай вайне (Гістарычны нарыс)*, Беласток—Лёндан 1996, сс. 361. Кніжку можна набыць у рэдакцыі „Нівы".

# Звесткі з Варшавы

17 лістапада 1996 года ў 19 гадзін вечара ў варшаўскім джаз-клубе „Гарэнда" што на Кракаўскім Прадмесці 4/6, адбылося спатканне з беларускай паэзіяй і прозай. Беларускіх літаратараў узначальваў Сакрат Яновіч, далей Надзея Артымовіч і маладыя паэты-барды Сяржук Мінскевіч і Андрэй Хадановіч з Менска. Спатканне гэтае арганізавала выдавецтва „Ex Libris". Абставіны былі даволі арыгінальнымі: падвал, чорныя афіцыянты і амерыканскі джаз. Сярод публікі (каля 40 асоб) меншасць складалі палякі. З „нашых" палякаў мала і хто ведаў пра гэтую сустрэчу і, дзіва, памагла Беларусь. Былі маладыя людзі з Менска і Гародні. Сакрат Яновіч прадставіў прысутным гісторыю развіцця беларускай літаратуры ў Польшчы, даказваючы тым самым, што ў краіне існуюць паралельна дзве літаратуры, польская і беларуская. Далей свае вершы чытала Надзея Артымовіч. На жаль, зала непадрыхтавана да такіх мэтаў (вядома джаз). Хлопцы чыталі і спявалі сваю паэзію. Зацікаўленне выклікаў Часлаў Мілаш па-беларуску ў выкананні Андрэя Хадановіча і экспрэсіўны голас Сяржука Мінскевіча. Агульнае ўражанне — імпрэза цікавая.

* * *

20 лістапада 1996 года ў 19 гадзін вечара ў акадэміку на вул. Смычковай 5/7 адбыўся сход варшаўскага гуртка БАСу. У сходзе прысутнічала каля 30-ці асоб, у тым ліку госці з Беластока, між іншым Юрка Сульжык — былы дзеяч БАСу, а зараз журналіст „Czasopisa". У ходзе спаткання былі выбраны новыя ўлады гуртка. Старшынёй стаў Лукаш Сцепанюк, намеснікам — Міраслаў Пац, сакратаром — Барбара Мусюк, скарбнікам — Міраслаў Ваўранюк. Галоўнай тэмай сходу была праблема інтэграцыі беларускага студэнцкага асяроддзя ў Варшаве. У апошніх двух гадах дзейнасць БАСу ў Варшаве занепала. Маладыя шэфы з вялікай ахвотай і запалам хочуць аднавіць арганізацыю.

**Серджыя**



*Лукаш Сцепанюк дэманструе сімвал БАСу.*

**Віслава Шымборска**

### Закаханыя

Такая цішыня, што чуем
песню праспяваную ўчора:
„Ты пойдзеш гарою, а я далінаю..."
Хаця чуем — не верым.

Наша ўсмешка гэта не ласка смутку,
а дабрыня не адрачэнне.
І нават больш, чымсьці яны вартыя,
не кахаючых шкадуем.

Мы такія здзіўленыя сабою,
і што ж нас больш здзівіць можа?
Ні вясёлка ноччу.
Ні матылёк на снезе.

А калі засынаем,
у сне бачым расставанне.
Які ж гэта добры сон,
які ж гэта добры сон,
бо з яго абуджаемся.

### Увекавечанне

Кахаліся ў ляшчыне
пад сонцамі расы,
сухога лісця і зямлі
набралі ў валасы.

Сэрца ластаўкі,
змілуйся над імі.

Укленчылі над возерам,
вычасалі лісце,
а рыбы падплывалі
да берага іскрыста.

Сэрца ластаўкі,
змілуйся над намі.

Адбіткі дрэў дыміліся
на драбнюткай хвалі.
Ластаўка, зрабі так
каб не забывалі.

Ластаўка цярновая,
паветраны якар,
палепшаны Ікар
у нябесным фраку.

Ластаўка, каліграфія,
стрэлка-безмінутка,
ранне-птушыная готыка,
касавокая хуткасць.

Ластаўка-ціхоня,
жалоба вясёлая,
арэол каханкаў,
змілуйся над імі.

### Нічога два разы

Нічога двойчы не здараецца
і не здарыцца. З тае прычыны
без вопыту на свет з'яўляемся
і паміраем без руціны.

Калі б быць вучнямі прыйшлося
найбольш тупымі ў школе свету,
аднак мы паўтарaць не будзем
зімы ніводнае, ні лета.

Дзень не паўторыцца ніколі,
падобных двух не будзе ночаў,
аднолькавых двух пацалункаў,
падобных позіркаў у вочы.

Учора, калі тваё імя
нехта прамовіў дасканала,
пачулася я, быццам ружа
праз акно ў пакой упала.

Сёння, калі ізноў мы разам,
я да сцяны ўцякла з вачамі.
Ружа? Як выглядае ружа?
Ці гэта кветка? Можа камень?

Чаму нядобрая часіна
блытаешся ты з перапудам?
Ты ёсць — дык мусіш праміну́цца.
Мінешся — прыгажосцю, цудам.

А мы ва ўсмешцы, у абдымках,
яшчэ спрабуем знайсці згоду,
хоць розніца ўжо паміж намі
нібы двух чыстых кропель водных.

### Некаторыя любяць паэзію

Некаторыя — вядома што не ўсе.
Нават не большасць усіх, толькі
меншасць.
Не лічачы школ, дзе абавязак,
і самых паэтаў,
будзе гэтых асоб хіба дзве на тысячу.

Любяць —
але любім таксама булён з макаронам,
любім кампліменты і блакітны колер,
любім стары шалік,
любім настойваць на сваім,
любім лашчыць сабаку.

Паэзію —
толькі што такое паэзія?
Не адзін хісткі адказ
на гэтае пытанне ўжо меў месца.
А я не ведаю і не ведаю і трымаюся
гэтага
як выратавальнай поручні.

*Пераклаў Віктар Швед*

# Малюю ад душы

Будучы аднойчы ў ВОАК, папалі мне на вока працы Станіслава Паскробкі. Два пейзажы, напісаныя цёмнымі фарбамі, уразілі мяне нейкім сумам. Рашыў я наведаць мастака.



Станіславу Паскробку, што жыве ў Рыбаках Нарваўскай гміны, 35 гадоў. Мастацтвам усур'ёз пачаў займацца пасля прыходу з войска. Напачатку, 2-3 гады, займаўся разьбою ў дрэве, аднак цягнула яго да колеру, да тых красак, якімі багаты былі акружаючыя яго вёскy лясы, палі, лугі, і якія захаплялі яго з наймалодшых гадоў. Дапамагла яму нагода: у газеце прачытаў інфармацыю, што ў Беластоку арганізуюць сустрэчу мастакоў-аматараў. Паехаў; і так пачалося. Ніхто яго нічаму не вучыў, усяго дабіваўся саматугам. Купляў кнігі, каб знаёміцца з тэхнікай. Ездзіў глядзець карціны ў Варшаву; быў у Нацыянальным музеі, галерэях *Studio* і *Foksal*, Уяздоўскім замку. Асабліва захаплялі яго працы каларыстаў Панкевіча і Базнаньскай. Часта бываў у беластоцкім Акруговым музеі і BWA. Прымаў удзел у пленэрах, арганізаваных Ваяводскім домам культуры; яго працы выклікалі большае зацікаўленне, чым працы прафесіяналаў. У 1990 г. Бюро мастацкіх выставак, дырэктарам якога была сп. Цывіньска, наладзіла выстаўку прац Станіслава Паскробкі. Які вэрхал тады падняўся! Навошта пусцілі чалавека звонку, калі ёсць выпускнікі акадэміяў?! — крычалі. А ён толькі агульнаадукацыйны ліцэй скончыў... Ну і закрыліся дзверы афіцыйнага мастацтва для ягоных прац. Адзін яго знаёмы, што жыве ў Беластоку, цікавіў тымі карцінамі людзей з Захаду. Прыязджалі людзі з Галандыі, Італіі, Францыі. У 1990 г. адзін француз узяў трыццаць карцін, каб сарганізаваць выстаўку ў Парыжы. Прасіў каб намаляваць яшчэ, але з таго часу і след па ім прастыў, і стаяць тыя карціны. Праўда, гэтыя людзі не звязаны з мастацтвам, гэта людзі бізнесу, магчыма, што ім патрэбная *халтура*, каб адно прадаць і добра зарабіць...

— А я, — кажа С. Паскробка, — такім відам творчасці не займаюся; не працую пад заказ. Пішу ад душы...

Не дзівуе тады і меланхолія яго кісці, калі кампанія гарадскіх зайздроснікаў сочыць пільна, каб працы самародкаў аставаліся ў цёмнай вясковай каморцы.

**Аляксандр Вярбіцкі**

# Школьніцтва ў Орлі на Падляшшы


*Будынак колішняга шпіталя, пазней школа; знесены ў 1986 годзе.*

Да канца XIX стагоддзя мясцовасць Орля карысталася гарадскім правам, аднак тады народ не меў доступу да асветных устаноў. У кастрычніку 1884 г. на тэрыторыі Арлянскага прыхода былі адкрыты г.зв. „подвижные" (рухомыя) школы, якія ў той час давалі для сялянскіх дзетак шанц навучыцца грамаце. Гэтыя аднакласныя асветныя школы, у якіх не было пастаяннага памяшкання, існавалі ў пяці вёсках: Шэрнях, Рудутах, Крывятычах, Тапчыкалах і Пашкоўшчыне.

З 1901 года ў Арлянскім прыходзе было ўжо адно народнае вучылішча і сем рухомых школ. У той жа час школа ў Орлі размяшчалася ў некалькіх невялікіх драўляных будынках, а ў міжваенны перыяд была пераведзена ў комплекс вялікіх драўляных будынін, у якіх раней быў шпіталь. Пасля II сусветнай вайны ўзведзены быў яшчэ адзін вялікі драўляны школьны будынак, а частку шпітальных збудаванняў прыстасавалі для патрэб дзіцячага садка, бібліятэкі, дома культуры, клуба і гміннай управы.

Шпіталь у тым часе быў толькі ў Орлі, а не было яго яшчэ, напрыклад, у Бельску-Падляшскім. Ад колішняга шпіталя застаўся толькі малы будынак з чырвонай цэглы, у якім быў морг. Астатнія будыніны ў 1986 годзе былі прададзены і знесены, паколькі патрэбны быў пляц пад будову новай пачатковай школы. У час зносу закрыты быў дзіцячы сад.

Пасля вайны ў драўляных будынках, побач пачатковай школы, змяшчалася яшчэ школа сельскагаспадарчай падрыхтоўкі. Навучанне дзяцей беларускай мове ў арлянскай школе — як успамінаюць старажылы — вялося заўсёды.

У 80-х гадах у Орлі заснаваўся грамадскі камітэт пабудовы пачатковай школы, які рабіў вялікія намаганні, каб як найхутчэй пачаць будову. У сувязі з тым, што Беласточчыну называюць „зялёнымі лёгкімі Польшчы", планавалася арганізаваць тут у час канікул лячэбны адпачынак для хворых дзяцей. Будаўнічыя працы пачаліся ў атмасферы прыгожых планаў і аргументаў.

Новую Пачатковую школу з беларускай мовай навучання ў Орлі здадзена ў карыстанне 17 снежня 1992 г. Будавался яна сем гадоў на сродкі дзяржаўнага бюджэту і пры фінанасавай падтрымцы мясцовай Гміннай управы.

Ва ўрачыстым адкрыцці школы ўдзельнічалі таксама беларускія госці са сталічнага Менска і Гродна з мастацкай часткай. Прысутны на ўрачыстасці працаўнік беларускага Міністэрства культуры Аляксандр Сасновіч, у будучым музычны інструктар у новай арлянскай школе, прыдбаў для гэтай навучальнай установы музычныя інструменты: піяніна „Беларусь", цымбалы і акардэоны. Аднак, трапіўшы на Беласточчыну, у Орлю папала толькі іх частка.

Пасля двухгадовай плённай працы на музычнай ніве ў школе і з народным калектывам „Арляне" рашэннем Управы гміны ў Орлі спынена супрацоўніцтва з амбітным інструктарам з Менска. Замяніў яго новы малады чалавек, і хаця запэўніваў па радыё, што створыць трохгалосы школьны хор, сам неўзабаве адмовіўся працаваць у Орлі. Такім чынам дзеці страцілі магчымасць атрымаць музычную адукацыю, а ахвяраваныя беларускім бокам інструменты бескарысна ляжаць дзесьці ў школе. На маю, шматгадовага музыканта, думку, музычныя інструменты павінны радаваць людзей, служыць развіццю музычнай культуры!

У новай, аграмаднай, разлічанай на 500 вучняў, Пачатковай школе ў Орлі вучыцца цяпер 183 дзяцей, з ліку якіх 110 вывучаюць беларускую мову. Ад прыгожых планаў і аргументаў, якія спадарожнічалі пачатку пабудовы, засталіся ўсяго „зялёныя лёгкія".

На школьным пляцы, ля новай школы, побач кацельні паралельна будаваўся ў 1988-1990 гадах жылы блок на 15 кватэр для настаўнікаў. Яшчэ да 1994 года блок чакаў завяршэння будаўнічых работ. Цяпер, калі з боку Управы гміны ў Орлі не відаць зацікаўлення новабудоўляй, будынак марнее, руйнуецца, асабліва сталярка. Сама логіка падказвае, што можна было б знайсці аматараў купіць кватэры ў гэтым будынку па ніжэйшых цэнах, чым у суседнім Бельску, але ў Орлі ніхто не праяўляе дбайнасці пра пабудаваную маёмасць.

* * *

Разам з адкрыццём новай школы ў 1992 годзе ўзнікла магчымасць заснаваць кабінет беларускай мовы. Кабінет атрымаўся прасторны, ясны і прыгожы. У ім новая мэбля, шмат кветак і чысціня. Настаўніцы беларускай мовы Анне Шыманскай прыйшлося абсталяваць кабінет паводле ўласных меркаванняў і густу, таму што ніякія дапаможнікі для гэтага прадмета ў Польшчы не выдаюцца. Аднак кабінет заслугоўвае на ўвагу. У ім знаходзяцца партрэты беларускіх пісьменнікаў, карта Беларусі, фотагазеткі (між іншым пра нацыянальную сімволіку, важнейшых паэтаў Беласточчыны). Цікавы таксама куток „Залатыя рукі нашых продкаў", у якім настаўніца разам з вучнямі сабрала шмат старых экспанатаў. Тут можна пабачыць вышываныя ручнікі і блузкі, каробкі, макотры (верцехі), збанкі, калаўрот, начоўкі (капанькі), лямпы і г.д. Спадарыня Анна Шыманская арганізавала таксама сваю класную бібліятэку, кнігамі якой карыстаюцца вучні на ўроках роднай мовы. У гэтым кнігазборы знаходзяцца беларускія календары, выданні літаб'яднання „Белавежа", слоўнікі, альбомы.

* * *

Я — ураджэнец Орлі, улюбёны ў сваю мясцовасць — вучыўся яшчэ ў старым шпітальным будынку і ўспамінаю яго з сентыментам. З сённяшняй школай (пры будове якой і мне давялося папрацаваць) знаёмлюся пры нагодзе сустрэч з вучнямі на ўроках, на якія запрашаюць мяне настаўніцы Беата Гарадзецкая і Анна Шыманская як манаграфіста Орлі і навакolля, мастака і фатографа. Для мяне гэта мілыя сустрэчы. Цешуся, што магу дзецям наблізіць гісторыю Орлі і нашай праваслаўнай зямлі, а радасць дзяцей падмацоўвае мяне самога, бо і „сапраўдны мастак тады жыве". Толькі за адзін год зрабіў я некалькі соцень шырокафарматных каляровых здымкаў з жыцця наваколля і Праваслаўнай царквы. Мінулы год прысвяціў я фатаграфаванню прыдарожных польных і вясковых крыжоў на тэрыторыі Арлянскай гміны. Супрацоўнічаю з некалькімі рэгіянальнымі часопісамі і тэлебачаннем.

Хацелася б мне наладзіць у школе вялікую фотавыставу аб гісторыі Орлі, але дзеля гэтага спагады згаданых настаўніц замала. Патрэбна была б згода і падтрымка іхных начальнікаў. Пры нагодзе школу наведалі б жыхары Орлі, якія гавораць, што „хаця школа і прыгожая, аднак чужая, бо ў яе нават няма як зайсці". Гмінныя ўлады (ёсць у нас і ГОК) таксама абыякава ставяцца да пытання папулярызацыі пяцісотгадовай гісторыі Орлі. Аднак трэба памятаць, што ведаючы гісторыю сваёй мясцовасці, свае карані, адчуваем сябе больш упэўнена, угрунтуваем наш гонар.

Орля — частка Бельскай зямлі, колішні павет, але Аддзел Рэгіянальнага музея — Ратуша ў Бельску-Падляшскім гадамі ігнаруе прапанову наладзіць выставу аб гэтай мясцовасці. Думаю, што экспазіцыя „Орля 1507 і сёння", над якой я творча працую, будзе прадстаўлена гледачам.

**Міхал Мінцэвіч**
*Фота аўтара*



*Анна Шыманская з пяцікласнікамі ў кабінеце беларускай мовы.*

# Між еўрапейцамі

Некалькі сяброў нашай рэдакцыі паведамілі нам, што нядаўна не маглі нас знайсці, хаця наш адрас добра ведалі. Нідзе не маглі заўважыць шыльды, якая інфармавала б, што менавіта тут знаходзіцца рэдакцыя „Нівы". Сапраўды, часам так здараецца, што наша шыльда ноччу недзе прападае і пакуль мы закажам і павесім новую, мінае некалькі дзён. Час ад часу таксама гіне нам клямка ад дзвярэй, але мы — супрацоўнікі рэдакцыі — неяк даем сабе рады. Горш адчуваюць сябе нашы госці, якія, збянтэжаныя незвычайнай сітуацыяй, задумваюцца напэўна, што ў нас тут дзеецца. А гэта толькі нейкія „еўрапейцы" выпаўняюць сваю цывілізацыйную місію. Найважнейшае аднак, каб людзі, якія нас шукаюць, маглі да нас трапіць. І таму апрача таго, што заўсёды стараемся, каб „logo" нашага тыднёвіка было відочнае, так на ўсялякі выпадак інфармуем, што маем супольны ўваход разам з Okręgową Izbą Aptekarską. Аднак спадзяемся, што наша шыльда заўсёды будзе інфармаваць, дзе знаходзіцца рэдакцыя. **(рэд.)**

## Канферэнцыя філасофаў

У лістападзе г.г. адбылася ў Ольштыне V Міжнародная канферэнцыя настаўнікаў філасофіі. Апрача настаўнікаў і вучоных з Польшчы ўдзельнічалі ў ёй філосафы з дзяржаў Цэнтральнай Еўропы. У працэсе трансфармацыі дзяржаўнага ладу вельмі важнай справай з'яўляецца ідэя адкрытага грамадства. Паняцце адкрытага грамадства сфармуляваў памерлы два гады таму аўстрыйскі вучоны Карл Раймунд Попер. Асаблівай яго рысай з'яўляецца свабода абмену думак, крытыкі, дыскусіі. З'яўляецца яно супрацьлегласцю грамадству закрытаму, у якім інфармацыйныя каналы блакіраваны, што характэрна таталітарным дзяржавам; прыкладам гэтаму лукашэнкаўская Беларусь. Каб памагчы людзям арыентавацца ў вялікай колькасці інфармацыі, якая нахлынае з розных крыніц, трэба ў сярэдніх школах вучыць іх філасофіі. Яна дапаможа маладым людзям выпрацаваць уласную іерархію вартасцей, раскрыць перспектыву ацэнкі акружаючай рэчаіснасці. Веданне філасофіі рашуча прычыніцца да фармавання паглыбленай рэфлексіі і крытычнага стаўлення да бурлівых змен у навакольным свеце.

**Андрэй Гаўрылюк**

# Дарогі нашы

**Амерыка**

Вуліца ў Катоўцы. Ад Трывежы шырока раскінула свае абочыны, быццам шчырасардэчна запрашаючы: *Welcome to Quotovca!* Крыху далей — расхадныя дарогі; і нямаш паказальніка, якая куды. Едзь сабе, добры чалавеча, куды хочаш! Хочаш направа — валяй направа, хочаш налева — круці налева, а не — дык едзь проста. Поўная свабода; як у банку. Хочаш пакласці грошы ў ПКО — кладзі ў ПКО, хочаш у Дрэздэнскі банк — кладзі ў Дрэздэнскі банк, хочаш у Бяспечную ашчадную касу Грабельнага — давай Грабельнаму. А калі што, то і засцерагчыся можаш: і ў ПЗУ, і ў „Палісе", і ў „Вэсце". І ніхто табе ніякім паказальнікам не махае перад вачыма: напраўляйся, куды душанька мае волю: выедзеш мо на асфальтоўку і ў элегантны гарадскі свет; а як не пашыхуе — у балота праваліцца; а можа толькі зноў станеш перад нейкімі такімі ж расхаднымі дарогамі.

**Польшча**

Дарога ў Крывец. З Падбаравіска. Імчышся, вырваўшыся з цёмнай пушчы, шырокай жвіроўкай сярод раздольнага поля. І расцеш у сілу, і адчуваеш, што жывеш дастатней. І нажымаеш на „газ". Ажно машына дрыжыць; усё больш і больш. Пад коламі — качалка, спераду — круты паварот. Тармазіш, ледзь паспяваеш! На крывецкай вуліцы ламоча машына, скрыгічуць зубы. Гэта трансфармацыя; дарога ў лепшую будучыню, у XXI стагоддзе, для „Лунахода", адны выбоіны. Абы толькі вытрымаць, канец з канцом каб не разышліся. А пазней усё будзе добра, асфальтоўка. Толькі яшчэ пару выбоін і... або шаша, або выбоіны яшчэ большыя.

**Расея**

Дарога з Капітаншчыны ў Ахрымы. Лесам. Едзеш і пастаянна кланяешся: а то штабс-адміралу крапіве, а то унтэр-яфрэйтару воўчаму лыку, а то адказнаму работніку трэцяга ранга абласнога значэння зайцу, а то яе высокаблагароддзю бярозе і г.д., і г.д. Уся дарога ў паклонах: і направа, і налева; уся дарога ў калдобінах. Кожная раслінка і кожная звярынка маюць свае калдобіны: у важнейшых глыбейшыя, у менш важных далікатнейшыя. А ёсць і калдобіны іерархічныя, трохпавярховыя нават: гнешся спярша менш важнаму чыну і, не адагнуўшыся — наступнаму, важнейшаму, і наступнаму — найважнейшаму, у салідную яму ўвальваешся. І не паважнічаеш тут, не разгонішся — усё мае быць згодна ўстаноўленаму цырыманіялу. Добра, што хаця нікому ў галаву не прыходзіць прыслаць сюды грэйдэр, бо ж гэта сорам адно адзін быў бы — быццам казла або барана ў крамлёўскія палацы ўпусціць.

**?**

Дарога з Ласінкі ў Трывежу. Хвалюе брук, быццам парад войск на Чырвонай плошчы. Плывуць круглаватыя камяні ў доўгай калоне. „Поздравляю вас с праздником Великой Октябрьской Социалистической Революции!", прыпамінаецца мне. „Уррр-ра-ра-ра! Ырр-рра-ра-ра! Эрр-рра-ра-ра!" — адказваюць грукатна каменныя галовы. Можа гэта даўнія віцязі ці рыцары, замененыя Кашчэем *Вечна Жывым* у закамянелую *маладую гвардыю*. Утоўчаныя ў зямлю. Сама дарога простая — няма тут магчымасці змены адзінаправільнага напрамку; спроба рэвізіянізму яго — у адхон. Пабач дарогі выстраеныя ў шарэнгу дрэвы, аголеныя віхрамі-завеямі з усяго — і з кветак, і з лістоты нават. Глядзяць навокал; то на закамянелую дарогу, то на чыстае поле. Прывязаныя да зямелькі, ад якое — абы прапаласкаць шэрыя капіляры.

**Адам Маньяк**



# Усё для кахання

У Беластоку ўсё аж кіпіць ад сексу. Мне, старому, дзякуючы гэтаму хоць весялей жыць, бо, як кажуць некаторыя, павінен быць я ўжо толькі „гавэндзяжам" у справах пасцелі. Хай ім будзе! Суну нос у газету — пахне печанай чалавечынай з кастроў чараўніц з кіёскаў, ерэтыкамі папахвае, бо парламентарыяў прыпякаюць, а пісакі ў святочных нумарах газет з любасцю пенетруюць наваколькія кусты і *ложніцы*. Бо ім толькі тое *наўме*, што „просты чытач" думае не пра скарынку хлеба, а чужой бядой марыць пацешыцца ды хлябнуць дозу якой крывавай гісторыі, бо жыць без гэтага не можа. Каб хоць пасмяяцца чалавеку далі!

Ехаў я на Дзесянціны аўтобусам нумар 19. Каля мяне сеў мужчына маіх гадоў, але моцна занядбаны (не кажу пра адзенне, але пра пражытае, віднае на яго твары). Апрануты от так сабе, як усе. Чатыры прыпынкі ад вакзала ў салон увайшла жанчына, недзе каля дваццаці пяці гадоў, з выгляду студэнтка, з рукзаком. Мой сусед акінуў вокам яе зграбныя грудзі ў спартыўнай куртачцы, вясёлыя кудзеркі, што віліся наўкол галавы і ўсміхнуўся:

— У мяне для цябе прапанова ёсць, пані. Едзем са мной. З мяне хопіць адзін нумар. А можа штосьці і далей у нас атрымаецца, не будзеш шкадаваць. Грошы ў мяне ёсць.

— Але мне шмат трэба! — засмяялася паненка. — Якая ў вас пенсія?

— Добрая, сем мільёнаў. Размовы лішняе не трэба, не то што з маёй старой, што грошы возьме, а скутку ніякага...

— Э-э-э, на адзін нумар замала будзе. Лепш падайцеся да свае шлюбнае паловы!

Увесь аўтобус прыслухоўваўся да размовы, хто паціху хі-хі ў вусы пускаў.

— Ну, панна, не перабольшвай. У мяне ў Старасельцах ёсць „мэта", жанчына чыстая, нестарая, бяру пляшку, дзесяць злотаў, і рады абое.

— Ну, тады вам з ёю працей будзе. Да пабачэння! — дзяўчына прабралася да дзвярэй, бо ўжо да вакзала даехалі.

— Матка Боска, але ж яна нахабная! Так голасна пра такое гаварыць! Як ёй не сорамна! — цётка, што сядзела перад намі, аж рукі заламала.

— Ну і жанчыны ў нас парабіліся! — яе суседка ўсхвалявалася яшчэ больш.

Мне крыху блага зрабілася ў духоце, сышоў і я на гэтым прыпынку, па „валідол" зайсці ў вакзальную аптэку. Стаў у чарзе, а перада мною дзве жанчынкі, вельмі занятыя, у выразнай спешцы, і нечым задаволеныя.

— Пані, па іле ў вас гумкі для кахання?

Аптэкарка высыпала перад імі горбачку разнавідных прэзерватываў.

— А какія найлепшыя? Па колькі? І каб моцныя, бяз дырак.

— Wszystkie są bardzo dobre, — з каменнай мінай адчыканіла пажылая пані магістр.

Жанчыны ўзялі па тузіне.

— Анічка, вазьмём яшчэ пару, га? Харошыя.

— Давай, прыгадзіцца.

От, падумаў я, добры сёння рынак збыту, гэты Усход. Хуценька купіў сваё лякарства, паклаў адну таблетку сабе пад язык і пайшоў за жанчынамі. Меў намер запытацца, як гандаль ідзе, як там у Беларусі — інфармацыі ж з першай рукі...

— Тавар пусць ляжыць на жэ-дэ-вакзале, пака ня кончым, — сказала маладзейшая. — Ані жа ждуць! Ну і клёва палучылася, зразу, і мужыкі зь дзяньгамі, і на кварцірэ, у цяпле!

Пра палітыку я ўжо ў нікога ў той дзень не пытаўся.

**Вандал Арлянскі**

# Зарасце зноў нас пушча

*(працяг са стар. 1)*

Як скончыць школу, то выедзе, як іншыя, у Гайнаўку ці Беласток і будзе жыць у блёку. А тут і так усё прападзе, бо старое.

— *Што вы ўсё пышэтэ і пышэтэ?* — выходзіць з панадворка яшчэ адзін дзядзька, падслухаўшы раней нашу мову. — *Сеялі б, аралі б...*

Пасаромеўшы нас за „пустую" працу, дзядзька стаў канкрэтны.

— Бо ў нас то сорак *бараноў* будзе. Хлопцы ўсе да жаніцьбы здатныя. У аднае бабы то аж чатыры кавалеры ў хаце сядзяць. Як парсюка заколюць, насклікаюць калег, то за два дні ўплятуць. У Палічнай *баранамі* абзываюць старых кавалераў. А найбольш папулярныя прозвішчы — Баран і Стэпанюк. Наш субяседнік — чалавек сямейны, значыць Стэпанюк яго прозвішча.

— А ў другіх вёсках, — даказвае дзядзька, — то такіх кавалераў *оленямі* называюць. Бо як занадзяцца па хатах за выпіўкай хадзіць, то як ад тых аленяў не адагнацца.

Тут я звяртаю ўвагу сваім малодшым сяброўкам пра пушчанскі ўплыў на палёт думкі і такія ж метафары. Бо хто ў Бельску ці Беластоку назваў бы састарэлага халасцяка *оленем* ці *бараном*?

— Дзядзьку, а самагонку ў вас гоняць?

— О! шэ і якую! Жытнёвую, першакласную! А што, пакаштаваць хочаце? — зрэзаў нашу цікаўнасць гаваркі дзядзька.

Размова становіцца ўсё больш смяшнейшая. Наш субяседнік засыпвае нас жартамі. Дзяўчаткі смяюцца. Прыемна стаяць у такой закрашанай народным гумарам кампаніі. Адчуваем сябе быццам на нейкім, некранутым яшчэ асіміляцыяй, востраве, сярод добрых сваякоў, аднапляменцаў.

— Паміраае наша вёска, — кажуць нашы субяседнікі. — Можна сказаць, адною нагою ў магіле ўжо. Прыедзе толькі бульдозер, сапхне будынкі, платы зраўнае, усё... І зарасце зноў нас пушча!

* * *

Па лясной дарозе з Палічнай у Старыну сустракаем апусцелы двор. Ядлоўкай называюць гэтае ўрочышча, з драўляным паляўнічым дваркам сярод пушчанскай паляны. Вакол забудовы імгла пушчанскай таямніцы. Двор пабудаваў у 1904 годзе памешчык Валанцэвіч. Па сённяшні дзень успамінаюць старажылы пана „што гаварыў па-свойму". І не было б тут дзіва, каб пан, як тутэйшы народ, быў праваслаўнай веры. Бо гэты каталікам быў і „па-руску" з людзьмі гаварыў. Зараз двор у Ядлоўцы мае чатырох уласнікаў. Час ад часу прыязджаюць яны ў Белавежскую пушчу правятрыцца ад сталічнага паветра. Усе мае спадарожнікі любуюцца дваром у Ядлоўцы... Мець такую хатку ў лесе!.. мараць сабе ўголас. І пэўна так жа будуць марыць пра вёску дзядоў унукі і праўнукі родам з зарастаючай Палічнай. Тым больш, што і ў нас намножылася зноў нямала „паноў".

**Ганна Кандрацюк**

*Фота аўтара*

# Позірк у мінулае

**15 снежня**

37 г. — нар. Нерон, рымскі імператар.

1025 г. — памёр Васілій II Балгарабойца, візантыйскі імператар.

1791 г. — у ЗША ўступіў у сілу *Bill of Rights*, які гарантаваў правa на м.інш. свабоду слова і гуртавання.

1859 г. — у Беластоку нарадзіўся Людвік Заменгаф, стваральнік міжнароднай мовы эсперанта.

**16 снежня**

1392 г. — нар. Іаан VIII Палеолаг, апошні візантыйскі імператар.

1672 г. — памёр Ян Казімір, польскі кароль.

1773 г. — жыхары Паўночнай Амерыкі заатакавалі ў Бостане тры англійскія караблі і скінулі іх груз у мора, чым далі пачатак вайне за незалежнасць ад Вялікабрытаніі.

1921 г. — памёр Каміль Сен-Санс, французскі кампазітар.

1921 г. — нямецкі хімік Фрыц Вінклер адкрыў чацвёрты стан матэрыі — плазму.

**17 снежня**

1770 г. — нар. Людвіг ван Бетховен, нямецкі кампазітар.

1830 г. — памёр Сіман Балівар, паўднёваамерыканскі змагар за свабоду.

1897 г. — нар. Уладыслаў Бранеўскі, польскі паэт.

1917 г. — бальшавікі разагналі I Усебеларускі з'езд у Менску.

1989 г. — у Тымішаары пачаліся крывавыя сутыкненні грамадзян з сіламі рэжыму Чаўшэску.

**18 снежня**

1803 г. — памёр Іааган Готфрыд Гердэр, нямецкі гуманіст.

1947 г. — нар. Стывен Спільберг, амерыканскі рэжысёр.

1961 г. — уварванне індыйскіх войск у партугальскія энклавы Гоа, Даман і Дзіу завяршыла 450-гадовае каланіяльнае панаванне партугальцаў на захадзе Індыі.

1969 г. — памёр паэт Пятро Глебка.

1973 г. — у СССР запушчана касмічны карабель „Саюз-13" з Пятром Клімуком на борце.

**19 снежня**

1902 г. — у ЗША паступілі ў продаж першыя ёлачныя электралямпачкі.

1906 г. — нар. Леанід Брэжнеў, савецкі палітык.

1915 г. — нар. Эдзіт Піаф, французская спявачка.

**20 снежня**

1355 г. — памёр Сцяпан Душан, сербскі цар.

1942 г. — іберыйскім пактам Іспанія і Партугалія аб'явілі аб сваім нейтралітэце ў II сусветнай вайне.

1951 г. — у ЗША здадзена ў карыстанне першую ў свеце АЭС.

1970 г. — пасля хваляванняў на поўначы Польшчы наступілі змены ў польскіх правячых вярхах.

1987 г. — у берагоў Філіпін сутыкнуліся два караблі, у выніку чаго загінула 4300 чалавек.

**21 снежня**

1620 г. — да берагоў Паўночнай Амерыкі прычаліў карабель *Mayflower* з першымі перасяленцамі з Англіі.

1879 г. — нар. Іосіф Джугашвілі (Сталін), савецкі палітык.

1896 г. — нар. Канстанцін Ракасоўскі, савецкі маршал.

1968 г. — у ЗША запушчаны ў напрамку Месяца першы касмічны апарат з людзьмі, які абагнуў Месяц. **(Ш)**

# ВЕР — НЕ ВЕР

Астроне! Прыснілася мне, што я кудысьці бягу. На далоні трымаю гадзіннік. Ён не круглы, а квадратны, у вельмі прыгожай рамцы. Надвор'е цудоўнае, свеціць сонца, а яго праменні падаюць на цыферблат, адлюстроўваюцца ад яго і спыняюцца на тварах нейкіх дзяўчат. Што можа абазначаць гэты сон, адкажы!

**Мікола**

Уяві сабе, Астроне, які дзіўны сон мне прысніўся. Быццам сядзіць у маёй хаце адзін наш мясцовы пісьменнік, даволі вядомы на Беласточчыне чалавек. Нібы ён — ніхто. Сядзіць п'яны, апусціўшы галаву, а апрануты так, што і глядзець непрыемна. Ён даслоўна абдзерты, у нейкай старой, непрыдатнай ужо вопратцы. Скажы, Астроне, ці гэта што кепскае мне будзе, ці яму?

**Марыя**

Мікола! Ты ў сне некуды бег, а гэта абазначае страту маёмасці і ў сувязі з гэтым беднасць. Але ж адначасова ты трымаў на далоні гадзіннік, які быў прыгожы і прамяністы, бо ад яго адлюстроўваліся праменні і падалі на твары нейкіх дзяўчат. А гадзіннік, калі ён спраўны і прыгожы, абазначае поспехі ў справах. Сапсаваны ж гадзіннік абазначаў бы разбітае жыццё, няўдачу і сум. Так што з гэтага вынікае, што можаш спадзявацца ў далейшым добрага ходу тваіх спраў у добры бок.

Марыя! Твой сон сведчыць, бадай, што той твой пісьменнік будзе мець нейкія непрыемнасці, страты (быў у абдзертай вопратцы). А давядуць яго да гэтага „добразычлівыя" сябры, у чым пераконвае тое, што быў ён п'яны.

**Астрон**

# МУЗЕЙНЫ ФОНД

Грамадскі камітэт пабудовы Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні на пабудову музея (у польскай і замежнай валютах) просім пералічваць на рахунак: **PKO BP Oddział w Hajnówce, nr konta: 5627-5454-132.**

Жыхары Беларусі могуць уплачваць ахвяраванні на рахунак **141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Менска.**

**Спіс чарговых ахвяравальнікаў:**

| | |
|---|---|
| 4 672. Сяргей Кардаш (Гайнаўка) | 12,00 зл. |
| 4 673. Міхал Врублеўскі (Гайнаўка) | 24,00 зл. |
| 4 674. Мікалай Клімюк (Гайнаўка) | 12,00 зл. |
| 4 675. Юры Панасюк (Гайнаўка) | 24,00 зл. |
| 4 676. Ян Казяк (Беласток) | 10,00 зл. |
| 4 677. Ян Карпюк (Забагонне) | 20,00 зл. |
| 4 678. Ян Палоцкі (Міхалова) | 12,00 зл. |
| 4 679. Антон Саковіч (Міхалова) | 18,00 зл. |
| 4 680. Хведар Галёнка (Варшава) | 72,40 зл. |
| 4 681. Міхал Байко (Гайнаўка) | 10,00 зл. |
| 4 682. Вольга Блізнюк (Гайнаўка) | 18,00 зл. |
| 4 683. Павел Алексяюк (Гайнаўка) | 10,00 зл. |

**Дзякуем.**

Наш адрас: Społeczny Komitet Budowy Muzeum i Ośrodka Kultury Białoruskiej, 17-200 Hajnówka, ul. 3 Maja 42, tel. (0-835) 30-16.

# Крыжаванка



**Гарызантальна:** 2. яркае свята, 4. спаборніцтва веласіпедыстаў, 6. лірычны 14-радковы верш, 7. стваральнік мастацкага твора, 9. ежа, 11. горад на ўсходзе Аўстраліі, 12. арганічнае ўгнаенне, 13. травяністая расліна, 15. гук, які паўстае пры ломцы, 17. адасобленая сялянская сядзіба, 18. кантынент, 19. друкаванае выданне.

**Вертыкальна:** 1. сталіца Сербіі, 2. дакумент, які дае права на праезд, 3. рака ў Афрыцы, 4. дзяржава ў Паўднёвай Амерыцы, 5. не сімпатыя, 6. васьміног, 8. сістэма рэпрадукцыі, напр. здымкаў, 9. цячэ ў Верхаянску, 10. англійская мера паверхні, 14. царкоўная адміністрацыйная адзінка, 16. від крыжаванкі, 17. ласунак са сланечніка і арэхаў.

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 43 н-ра:**

**Гарызантальна:** ясыр, адказ, Уганда, грэх, каток, рэкет, Харватыя, бас, накладка, Някрасаў, мір, лістоўка, мафія, асака, бура, адліга, немцы, ліфт.

**Вертыкальна:** адвага, гарох, сыравіна, рух, Карэя, удзел, кампанія, рыдлёўка, бант, секс, Адам, кадр, аўтограф, Іркуцк, нанду, ліміт, Асвея, бал.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Казіміру Радошку** са Свядодзіц і **Міхалу Байко** з Беластока.

# *Парнасік*

## Дуб

Дуб вялікі і зялёны —
Дрэвы шлюць табе паклоны,
Ты ўсіх іх перавышаеш
І прыроду праслаўляеш.
Ты, як цар у пушчы, лесе...
Вырастаеш на Палессі
І найлепш у нас расцеш
І выдатны плён нясеш.
Бо жалуды гэта ласунак
Ды вавёрцы падарунак:
У сваё гняздо прыносіць
І зімою ўжо не посціць.
Птушка краска зімовая
На жалуды лакомая;
Корміцца дуба насеннем,
Што з'яўляецца збавеннем.
Дуб магутны, ты — кароль,
Гоніш усяку *шваль* і моль,
Нам настрой падымаеш
І хваробу аслабляеш:
Можаш прэч яе пагнаць,
Толькі трэба дуба знаць.
Паважаць, любіць як дрэва,
Каб расло і ў час даспела.
Дуб, ты моцны; а матэрыял?
Гэта вернасць, не марал!
Ён у свеце дык найлепшы
І бадай найрыхажэйшы.
Ты як сталь: усюды прыдатны
З вынікам найлепш выдатным.
Вораг ты для паразітаў —
Дуб легендаю спавіты...
Мэбля з дубу дарагая,
Вельмі добрая, не ліхая.
Шафы, крэслы і сталы
А таксама пасталы...
Дык для іх няма цаны!
Дуба, дружа, бараніі!
Слуп закопаны ў балота
Гэта вечная работа.

**Мікалай Панфілюк**

## Лясны свет

Надакучыў мне свет.
Іду супакоіцца ў лес.
Дрэвы махаюць голлем —
Яны вітаюць мяне.
Найменшы кусцік паўтарае:
— Супакойся!
Пасля буры ж вяртаецца
Вясёлы сонечны дзень.
Так вернецца да цябе
Шчаслівы радасны свет.
Жыццё — толькі хвіліны.
Шмат хвілін у жыцці.
Раз людзі на возе сядзяць.
А іншы раз і пад возам.
Адыдзе ўсё што не так.
А верыць трэба ў шчасце.

**Аўрора**

* * *

Барані Божа перад такой стратай,
Калі паэтэсу лічаць дурнаватай.
Забралі адзенне, за хлеб просяць
грошы,
Замест цёплых ботаў падаюць
галёшы.

* * *

Былі ў вёсцы Тафілаўцы
дзеўкі-чараўніцы,
Прадавалі яйкі, куплялі спадніцы.
А Дзямід узяў сабе паню з „мяста",
Каштаваў мазуркі... ну і баста!

**Мар'я Пень**


# *Ніва*

**„Niwa"**

ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435-022.

Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata.**

1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1997 r. upływa 5 grudnia 1996 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na I kwartał wynosi 13 zł (130 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,75 zł (17 500 starych zł), a kwartalnie — 22,75 zł (227 500 starych zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-2700-1-08.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Пародыі

**Быў час...**

*Масква. Зіма. Мароз раскатам...*
*Цвярскім бульварам*
*Іду з Арбата.*
*А побач — проставалосы Пушкін...*

**Юрка Зубрыцкі**

Мяне віталі Пушкін і Рылееў,
І Дастаеўскі ляпаў па плячы.
А Гогаль гаварыў: „Ты ўсё сумееш,
Калі ўдасца ў Беласток ўцячы".
А я любіў Арбат з Цвярскім бульварам,
І маўзалей, і Леніна любіў.
Ды Беласток быў для мяне, як мара:
Я думаў пра яго і нават сніў.
Крылоў мне спачуваў і плакаў Горкі,
Каштанку Чэхаў мне падараваў.
Хоць Беласток быў ад Масквы далёка —
Мяне дамоў ён з белакаменнай чакаў.
А я не ехаў — не пускаў Ясенін,
І Маякоўскі чарку наліваў.
Мяне натхнялі крэмль і дзядзька Ленін,
І нават Сталін п'янкі дараваў.
Ды час ішоў, а час быў бальшавіцкі,
Была адзіная вялікая сям'я...
І быў Зубрыцкі — значыць Валкавыцкі,
І Валкавыцкі ёсць, бо гэта я!

**Сяргей Чыгрын**

# Думка ўслых

Правадыры праводзяць на нас эксперыменты, а мы ім узводзім манументы.

**А. Баранаў**



*Малюнак Л. Гадуна*

# Ніўка

## Лістоўка з Менска

### ДОРОГИЕ ТОВАРИЩИ!

Два года назад мы поддержали кандидата в Президенты Беларуси — Александра Григорьевича Лукашенко. Благодаря нашим голосам Он победил! Сегодня выполнены все предвыборные обещания Лукашенко:

- уничтожена коррупция и обезглавлена мафия. Всех чиновников назначает президент Лукашенко, и они больше не воруют и не берут взяток;
- Экономикой управляет Президент Лукашенко. В результате запущен ряд предприятий. Планы перевыполняются. Зарплата всем выплачивается вовремя и ее хватает даже на покупки дорогих вещей;
- остановлена инфляция и началось снижение цен;
- введены новые, понятные всем, красно-зеленые флаги Лукашенко, а также русский язык, который уже значительно улучшил нашу жизнь;
- сразу после предыдущего Референдума, где мы проголосовали за интеграцию с Россией, восстановлены братские связи с нашей великой соседкой, что привело к значительному повышению пенсий и зарплаты — до уровня российских и даже выше.

**С каждым днем мы живем все лучше и лучше.** Об этом вы знаете из своей повседневной жизни.

Но не все еще до конца поверили нашему горячо любимому **Президенту — Александру Григорьевичу Лукашенко.** Одни не верят в Его гениальность, другие сомневаются в том, что Он выполнил свои предвыборные обещания. Можно увидеть даже надписи, порочащие Александра Григорьевича. Пока много и таких, кто колеблется вместо того, чтобы окончательно проникнуться абсолютным доверием к Лукашенко и вручить ему свою судьбу.

В этих условиях мы, представители Группы Общественной Поддержки ВЕРЫ в Президента-Лукашенко **[ГОП]**, просим всех помочь ответить этим сомневающимся. Мы призываем всех и везде писать лозунги, прославляющие Нашего Дорогого Президента Лукашенко и Его достижения.

Долг каждого гражданина — всемерно крепить ВЕРУ в Лукашенко, а также ВСЕЛЯТЬ НАДЕЖДУ в сомневающихся. Сегодня это — единственный путь к лучшей жизни.

И не бойтесь перехвалить Александра Григорьевича. Ведь у Него нечеловеческие способности (вспомните, как Он в этом засушливом году дал дождь Брестской области). Поэтому мы не удивимся, если некоторые люди скоро признают в Нем Мессию или, даже, самого Бога.

Мы призываем всех активно поддержать идею Президента о проведении второго Всенародного Референдума. Это даст Президенту Лукашенко всю власть в Беларуси полностью. Мы просим всех помочь Ему окончательно победить демократию в Его трудной борьбе. Только так мы построим светлое будущее.

Нам не нужно верховных советов, конституционных судов. Никаких партий! Никаких умных ученых и политиков!

Всю власть над нашими судьбами и судьбами наших детей — в руки горячо любимого Президента — Александра Григорьевича Лукашенко!

Вступайте в общество поддержки веры в Президента-Лукашенко!

**Группа граждан, беспредельно преданных и искренне верящих Президенту-Лукашенко.**

* * * * *

**Рекомендованные лозунги для укрепления ВЕРЫ в Президента Лукашенко:**

- Президент Лукашенко — ум, честь и совесть Беларуси.
- Дела Лукашенко будут жить вечно!
- Лукашенко — наш ГЕРОЙ — нам не страшен ВРАГ любой.
- Лукашенко — мужчина моей мечты.
- Лукашенко нам дороже отца и матери.
- Лукашенко — наш Президент на века!
- Лукашенко! Согревай нас, как Солнце.
- Лукашенко — ты наш Бог!

# Сентэнцыі

На чыстым прасцірадле і след камара ўбачыш.

* * *

У мінеральнай вадзе купаецца здароўе.

* * *

Розум не золата, у каратах не змераеш.

* * *

Мудрасць патопчаш, ды кароны з яе не знімеш.

**Барыс Руско**

# А можа...

У зале пасяджэнняў на крэслы паклалі цвікі.

Сеў літовец — вылаяўся і кінуў цвік у прэзідыум.

Сеў украінец — узяў, паглядзеў і сунуў цвік у кішэню: маўляў, у гаспадарцы спатрэбіцца.

Сеў беларус — пакруціўся, пакруціўся і падумаў: а можа, так і трэба?

# „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

Памерлі тры жанчыны дый стаяць перад святым Пятром:

— Колькі разоў здрадзіла мужу? — пытае першую.

— Не спомню, — адказвае тая.

— Вазьмі сінюю спадніцу ды ідзі направа, — кажа ёй святы Пётр ды звяртаецца да другой з такім жа пытаннем.

— Было некалькі разоў, — адказвае другая.

— Вазьмі чырвоную спадніцу ды ідзі налева, — кажа ёй і пытае трэцюю.

— Ніколі, — адказвае яна.

— Табе крылы і белая спадніца!

— Буду анёлам! — цешыцца трэцяя.

— Не; дурною гускаю!

* * *

Беларус, расеец і паляк апынуліся ў небе. Сустракае іх святы Пётр і пытае:

— Ці былі вы верны сваім жонкам?

— Тры разы здрадзіў, — прызнаецца беларус.

— Атрымаеш за гэта невялікі самаходзік, каб мог ездзіць па небе...

— Я толькі адзін-адзіны раз, — прызнаецца расеец.

— Добра! Табе самаход больш і выгаднейшы...

— А я быў верны ўсё жыццё, — кажа паляк; — у нашай найяснейшай дзяржаве нельга здраджваць жонцы.

— За гэта атрымаеш аўтамабіль з аўтаматычнай каробкай перадач, кліматызацыяй ды другімі выгодамі.

— Вельмі дзякую, святы Пётр, — уцешыўся паляк.

Праз тыдзень спатыкаюцца ўсе трое; паляк нейкі маркотны.

— Што з табою? — пытае яго беларус.

— Сустрэў жонку — яна каталася на роліках...

* * *

Сужонства пасля дарожнага выпадку стала перад святым Пятром:

— За кожную сямейную здраду атрымаеце па адным уколе іголкай, — заяўляе ён.

— А дзе мой муж? — пытае жонка, адпакутваўшы свае грахі.

— Ён яшчэ не выйшаў з-пад машыны для сшывання.

# САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка! Не ведаю, у якім ты ўзросце і ці зможаш зразумець нас, маладых. Цяжка нам жыць сёння. З усіх бакоў толькі і чуваць: **эйдс, ды эйдс!** Папярэджваюць нас і ў прэсе, і ў тэлевізіі, да чаго могуць давесці выпадковыя сексуальныя кантакты, не раяць нам часта змяняць партнёраў, а калі ўжо інакш немагчыма, дык рэкамендуюць карыстацца прэзерватывамі.

Дальбог, страх падумаць пра мужчыну. Памяркуеш-памяркуеш — і вырашыш не ісці на спатканне. А нашы бацькі дык свае адгулялі! У эпоху іх маладосці з сексу не рабілі праблемы. Нават модна было пераспаць з партнёрам і забыцца пра яго. А цяпер? Забудзешся — а праз нейкі час гэты **эйдс** вылезе. У рускіх, яго **спідам** называюць. Нават, кажуць, лякарства на яго жартаўнікі вынайшлі: **спіадзін!** Так, маюць яны рацыю: будзеш спаць адзін, дык нічога да цябе не прычэпіцца, але навошта яно, такое сумнае жыццё?!

Мая 80-гадовая бабуля сцвярджае адназначна: за грахі гэта, дзеткі, за грахі Бог пакараў. Замнога сабе дазвалялі!

А я дык думаю, што бабуля ўжо сваё адграшыла, дык добра ёй цяпер гаварыць! Хоць бы раз спрабавала ўвайсці ў наш час, успомніць маладосць, зразумець чалавека. Усё ж для людзей, а нам раяць ледзь не ў манашкі ісці.

Я не кажу, што мушу спатыкацца з выпадковым хлопцам у цягніку ці ў вакзальным туалеце, але ў мае васемнаццаць цяжка ўвесь час трымацца за аднаго хлопца. Так можна і жыццё праваронідь. І маё жыццё можа прайсці каля мяне. Летам была я на моры. Стольсі было там статных хлопцаў, што аж вочы разбягаліся. Высокія, моцныя, відаць было, што займаюцца спортам. Як уваходзілі ці скакалі ў ваду, дык іх загарэлыя целы рабілі на мяне нязвыклае ўражанне. Аж дрыжыкі ішлі па майму целу. Але штоз таго, калі ў кожным я бачыла патэнцыяльнага хворага, а прынамсі носьбіта віруса гэтай халернай хваробы.

Баюся, што ад усяго гэтага я хутка звар'яцею і трэба будзе ісці да псіхіятра. Зайздрошчу папярэдняму пакаленню, якое такіх праблем не мела. Як на злосць, я ізноў пазнаёмілася з цудоўным хлопцам, за чысціню якога, на жаль, галаву адрэзаць не дам. Да мяне ў яго было нямала дзяўчат. Хлопец вельмі прыгожы, студэнт. І мушу прызнацца, што вельмі мне імпануе. Праўду сказаўшы, дык я ўжо мела двух хлопцаў, але гэтага проста баюся. Можа, гэта нядобрае прадчуванне папярэджвае мяне аб пагрозе?.. Ну, і што мне рабіць у гэтым выпадку? Раяць карыстацца той гумай, але што з ёю за прыемнасць. Я лічу, што гэта прафанацыя. Ці ты, Сэрцайка, мне штосьці можаш параіць?

**Віялета**

Віялета! Галавой муру не праб'еш. Жывеш у такі час, у які жывеш. Трэба да яго дастасавацца, бо ў іншую эпоху не пераскочыш. Спадзяюся, што неўзабаве вынайдуць лек, які будзе лячыць той **эйдс** як звычайную заразную хваробу. Але, пэўна, тады вылезе нешта іншае.

А пакуль што трэба жыць, як набяжыць. Праўдападобна, з прэзерватывамі можна кахацца спакайней, хаця і з меншымі эмоцыямі. Але ці ты сапраўды маеш падставы, каб не верыць хлопцу, які табе так заімпанаваў? Што, ты пазнаёмілася з ім на пероне? А, зрэшты, і на пероне можа пачацца мілае знаёмства. Іншая справа — калі на пероне ці ў вагоне поезда знаёмства ўжо і канчацца. Можа, не належыць ён да такіх матылькоў...

Вядома, калі ў кожным хлопцу бачыць заразу, дык і жыць адхочацца. Але ж, мяркую, ты не выбрала сабе хлопца з грамадскага маргінэсу... Зрэшты, калі і ён цябе кахае, дык можа пайсці да лекара і зрабіць даследаванні. Пагавары з ім.

**Сэрцайка**

P.S. А дзе гарантыя, што ты здаровая? І ў цябе ж ужо было пару партнёраў, а ты не ведаеш, ці была ў іх адзіная.